© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

наша
# свабода
№10(237) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

28 СТУДЗЕНЯ 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК
Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103
тэл. 284-36-53
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com
КОШТ СВАБОДНЫ

## Пасадзіць, скасаваць, спыніць...

Беларускія чыноўнікі ўжо дазваляюць сабе крытыкаваць дзеянні найвышэйшага кіраўніцтва краіны – відома, ананімна. Апошнім часам вызначыліся супрацоўнікі МЗСу, якія выступілі супраць «антыкарупцыйнай» палітыкі кіраўніцтва.

Як адзначыў адзін з чыноўнікаў вольналюбнага міністэрства, які пажадаў застацца невядомым, гучныя крымінальныя справы ў дачыненні да дырэктараў беларускіх прадпрыемстваў адмоўна адбіваюцца на міжнародным іміджы краіны. Гэта ў сераду перадаў «Інтэрфакс».

Па словах ананіма, кіраўнікі беларускіх прадпрыемстваў асабіста курыруюць пастаўкі за мяжу. Частку прадукцыі ўдаецца прадаць выключна дзякуючы асабістым кантактам дырэктараў за мяжой – асабліва гэта тычыцца Расіі, Цэнтральнай Азіі і Блізкага Усходу.

Прадстаўнік МЗСу адзначыў, што ўжо цяпер частка падрыхтаваных кантрактаў блізкая да зрыву – якраз таму, што некаторыя дырэктары беларускіх прадпрыемстваў ужо апынуліся ў «казённым доме». Дарэчы, у адным з мінулых нумароў мы згадвалі, што пасля арышту дырэктара Мінскага трактарнага заводу Міхаіла Лявонава Туркменістан гатовы сарваць гандлёвае пагадненне – замест 100%-й перадаплаты ён цяпер гатовы разлічыцца толькі пасля таго, як 1 000 трактараў перасякуць туркменскую мяжу.

Апроч таго, ананім з замежнапалітычнага ведамства падкрэсліў, што крымінальныя расследаванні і абвінавачванні некаторых беларускіх кіраўнікоў у перавышэнні службовых паўнамоцтваў і злоўжываннях могуць стацца прычынай скасавання вельмі важных эканамічных дамоваў з іншымі дзяржавамі.

Нагадаем, што за апошнія некалькі месяцаў за краты трапіла каля дзесятка «чырвоных дырэктараў» – кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў.

**Ірына СТАРЦАВА**

# Нафтахімію прадамо кавалкамі

*Сёлета беларускі ўрад плануе прадаць акцыі шасці нафтахімічных прадпрыемстваў і атрымаць за іх каля 843 мільёнаў даляраў. Пра гэта паведаміў у канцы мінулага тыдня прэзідэнт канцэрну «Белнафтахім» Іван Бамбіза.*

Цікавасць сітуацыі ў тым, што да продажу рыхтуюцца пакеты акцыяў, якія складаюць менш за 50%. Гэта значыць, што нават пасля частковага продажу акцыяў апошні голас застанецца за нашай дзяржавай.

Беларускія прадпрыемствы нафтахімічнай галіны – бадай, самы цікавы аб'ект для расійскіх сыравінных кампаніяў. Калі ўдала ўкласці грошы ў іхнюю рэканструкцыю, то яны змогуць прыносіць звышпрыбыткі. Беларуская дзяржава канстатуе, што не мае сваіх сродкаў на гэта, і кліча расійскіх варагаў.

Да частковай прыватызацыі зараз рыхтуюць 6 прадпрыемстваў – «Нафтан», «Палімір» (абодва – Наваполацк), «Азот» (Гродна), «Белшына» (Бабруйск), а таксама два «Хімвалакно» – магілёўскае і светлагорскае. Сам гэты працэс вельмі складаны, і, паводле ацэнкі некаторых адмыслоўцаў, зойме ледзьве не ўвесь 2002 год.


Фота IREX/Промінь

Паводле меркавання прэзідэнта «Белнафтахіму», плануецца весці продаж акцыяў пазначаных вытворчых аб'яднанняў часткова за грошы, а часткова – у абмен на гарантыі далейшага інвеставання ў вытворчасць. Недахоп абаротных сродкаў і патрэба ў неадкладнай рэканструкцыі і мадэрнізацыі – галоўная праблема не толькі для нафтахімічнай галіны. Але менавіта ў ёй невыканання згаданых умоваў прывядзе да вельмі цяжкіх фінансавых наступстваў. Дарэчы, амаль кожнае з гэтых прадпрыемстваў мае вялікі штат працаўнікоў. «Нафтан» і «Палімір» утрымліваюць зараз па 6 тысяч чалавек, «Хімвалакно» з Светлагорску – 10 тысяч, а магілёўскае «Хімвалакно» – амаль 20 тысяч працаўнікоў.

Беларускі бок будзе настойваць, каб замежны інвестар захаваў профіль акцыянаваных прадпрыемстваў, развіваў на іх вытворчасць, замяняў састарэлае абсталяванне – але ў гэты ж час адмовіўся ад скарачэнняў персаналу, а таксама захоўваў і развіваў сацыяльную сферу, клапаціўся пра навакольнае асяроддзе. Такое пажаданне выказаў Аляксандр Лукашэнка яшчэ летась. На нарадзе па праблемах прыватызацыі ён адзначыў, што кантрольны пакет адразу аддавацца інвестарам не будзе. Маўляў, спачатку няхай папрацуюць гады два-тры, а потым ужо прэтэндуюць на нешта большае.

Вядома, што інвестары з Захаду не вельмі імкнуцца прыходзіць у Беларусь на гэтых умовах. Аднак, падаецца, расіянаў гэта не вельмі палохае. Вядома, што вялікую цікавасць да беларускай нафтахімічнай прамысловасці праяўляюць *«АМТЕЛ»*, *«ИТЕРА»*, *«Лукойл»*, *«Славнефть»* і *«Сургутнефтегаз»*. Некаторыя з іх нават не прэтэндуюць адразу на кантрольны пакет, спадзеючыся набыць яго пазней.

Расійскія кампаніі ўжо даўно вызначыліся са сваімі прэтэнзіямі на беларускую нафтахімію. *«Славнефть»* і *«Сургутнефтегаз»* хочуць разам набыць наваполацкія «Нафтан» і «Палімір», а таксама гродзенскі «Азот». На «Азот», апроч іх, прэтэндуюць *«Лукойл»* і *«ИТЕРА»*. У сваю чаргу, *«Лукойл»* таксама хоча ўкласці грошы ў «Палімір» і «Нафтан». Нагадаем, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў кіраўнік *«Лукойлу»* абяцаў у бліжэйшы час інвеставаць у Беларусь 1 мільярд даляраў. Ёсць пакупнікі і на іншыя гіганты беларускай прамысловасці.

Такім чынам, ураду застаецца толькі правесці перамовы з зацікаўленымі кампаніямі і папытацца – хто дасць болей. Аднак усё роўна апошняе слова застанецца за кіраўніком дзяржавы: менавіта ён хоча накладаць рэзалюцыю на кожны такі інвестыцыйны праект.

Куды ж пойдуць зароблены грошы – калі расійскія сыравінныя магнаты сапраўды раскашэляцца? Па ацэнках адмыслоўцаў, на рэканструкцыю і мадэрнізацыю згаданых прадпрыемстваў у найбліжэйшы час спатрэбіцца да 1,5 мільярда даляраў. Так што абяцаныя І.Бамбізам 843 мільёны – гэта зусім няшмат. Інакш – калі не інвеставаць грошы ў развіццё вытворчых аб'яднанняў – праз пару гадоў згаданыя заводы будуць каштаваць не больш чым гара металалому.

Расійскія інвестыцыі могуць выратаваць беларускую нафтахімію. Але пасля гэтага выратавання нафтахімічныя вытворчыя аб'яднанні будуць належаць Беларусі толькі тэрытарыяльна. Кіраваць прадпрыемствамі і размяркоўваць прыбыткі будуць з Масквы або Сургуту. Нам жа застанецца толькі наракаць на сваю беднасць.

**Міхась КАРПОВІЧ**

МАС-МЕДЫЯ

# Найважнейшая ўмова стабільнасці

*24 студзеня ў Камітэце па культуры, навуцы і адукацыі Парламенцкай асамблеі Савету Еўропы адбыліся першыя слуханні па сітуацыі са сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі. Ініцыятыва гэтага мерапрыемства належала Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ). Яе прэзідэнт Жанна Літвіна і адкрыла сваім выступам дыскусію, якая цягнулася дзве гадзіны.*

Галоўная прычына, якая падштурхнула падняць на такім узроўні тэму сітуацыі з СМІ ў Беларусі, адзначыла Літвіна, – гэта адсутнасць грамадскага кантролю за законатворчасцю ўладаў, звязанай з рознымі аспектамі дзейнасці СМІ. Як правіла, законапраекты рыхтуюцца кулуарна. І нягледзячы на заявы пра дэмакратызацыю, якую беларуская ўлада пачалі абяцаць пасля прэзідэнцкіх выбараў летась у верасні, пакуль што няма прыкметаў таго, што гэтыя абяцанкі стануць рэальнасцю. Па-ранейшаму няма вольнага доступу да электронных СМІ, што супярэчыць законным правам грамадзян. А чальцы Камітэту па культуры, навуцы і адукацыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, прысутныя дэпутаты Асамблеі матывавалі сваю цікавасць да беларускага пытання тым, што свабода СМІ – найважнейшая ўмова стабільнасці. Пры гэтым адзначалася, што праблема, якая абмяркоўваецца, не можа лічыцца толькі беларускай. Яна проста больш заўважная, чым, напрыклад, у Расіі і Украіне.

Як станоўчы момант пры абмеркаванні праблем з беларускай свабодай слова адзначалася тое, што ў слуханнях узяў удзел міністр інфармацыі Беларусі Міхаіл Падгайны.

*Заканчэнне на стар.3*




ВЕСТКІ


Фота IREX/Промінь

## БелАЗ стварае 90-тоннік

БелАЗ мае намер стварыць і паставіць на серыйную вытворчасць 90-тонны кар'ерны самазвал. Такім чынам, у Жодзіне зробяць канкурэнцыю канцэрну «Катэрпілар», які стварыў падобную мадэль.

## Навабранцы прынялі прысягу

27 студзеня ва Узброеных сілах Беларусі прынялі прысягу 11 тысяч маладых салдат. Як сказаў на цырымоніі міністр абароны Леанід Мальцаў, «салдат павінен займацца сваёй галоўнай справай — рыхтавацца да абароны Радзімы».

## Затрымана групоўка кватэрных зладзеяў

Мінская міліцыя затрымала злачынную групу з пяці чалавек, якая падазраецца ва ўчыненні 50 кватэрных крадзяжоў у мінулым годзе. Усе зладзеі – жыхары Мінску і Мінскай вобласці ў веку да 30 гадоў.

## З'езд вучоных

У Мінску ў чэрвені гэтага году адбудзецца I з'езд вучоных Беларусі. Колькасць ягоных удзельнікаў вызначаная пастановай ураду. Гэта 1 700 дэлегатаў і 500 запрошаных.

## Беларусізацыя і камп'ютэрызацыя

На сядзібе БНФ у Мінску пачаў працу камп'ютэрны клуб. Паводле прэсслужбы БНФ, «адной з найважнейшых сваіх задач члены тэхнаклубу бачаць беларусізацыю сусветна вядомых камп'ютэрных праграм, паколькі большасць з іх існуюць толькі ў англа- і расійскамоўных версіях. Аднак колькасць тых, хто з задавальненнем карыстаўся б беларускім варыянтам гэтых праграм, пастаянна расце».

## Сабакі на мытні

Дзяржаўны мытны камітэт прыняў рашэнне аб стварэнні ўласнай кіналагічнай службы. У першую чаргу сабакі будуць дапамагаць мытнікам выкрываць злачынствы, звязаныя з наркотыкамі.

## Турыстаў у Беларусі небагата

Летась нашую краіну наведала ў 4,5 раза менш турыстаў, чым выязджала з яе. У замежныя паездкі выпраўлялася 1,2 мільёна беларускіх грамадзян. У Беларусі прынялі 63 тысячы арганізаваных замежных турыстаў і 205 тысяч тых, хто прабыў у нас меней 24 гадзін.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»** 1685

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



ЭНЕРГЕТЫКА

## Аб'яднанне гігантаў у Наваполацку

Апошнімі днямі ў Наваполацку адным з самых дыскусійных пытанняў на ўсіх узроўнях сталася магчымае аб'яднанне ў адно цэлае вядомых на ўсю краіну прамысловых гігантаў ВА «Палімір» і ВА «Нафтан» з наваполацкім ААТ «Нафтазаводмантаж» і Наваполацкай ЦЭЦ.

Дзеля абмеркавання гэтага праекту ў Наваполацку ўжо пабывалі на пачатку студзеня кіраўнік міністэрства энергетыкі Уладзімір Сямашка, віцэ-прэзідэнт канцэрну «Белэнерга» У.Кардуба і генеральны дырэктар аб'яднання «Віцебскэнерга» А.Азярэц. На Віцебшчыне бытуе думка, што кіраўнікі беларускай энергетыкі не жадаюць пазбаўляцца цеплаэлектрацэнтралі ў Наваполацку, якая даволі эфектыўна працуе.

Але сярод прыхільнікаў гэтага праекту – дэпутат Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Пётр Саламуха, які ўзначальвае адзін з аб'ектаў магчымага аб'яднання — ААТ «Нафтазаводмантаж». На ягоную думку, калі «Нафтан» і «Палімір» будуць акцыянавацца і атрымліваць замежныя інвестыцыі, то разам з імі павінны быць і ягонае ААТ, і цеплаэлектрацэнтраль. Пётр Саламуха лічыць, што такое аб'яднанне зможа знізіць сабекошт прадукцыі і «ажывіць» фінансавае становішча гэтых прадпрыемстваў, бо зменшыцца ўплыў сталічных чыноўнікаў. Цяпер для канчатковага вырашэння лёсу гэтага праекту ў Наваполацку вось ужо другі тыдзень чакаюць прэм'ер-міністра Генадзя Навіцкага.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

## Мала беларускіх п'ес

У беларускіх тэатрах неабходны перагляд рэпертуараў. Пра гэта заявіў міністр культуры краіны Леанід Гуляка 24 студзеня на паседжанні калегіі міністэрства.

Паводле словаў Гулякі, нягледзячы на рост у рэпертуарах долі твораў беларускай драматургіі, колькасць п'ес на нацыянальнай мове ў тэатрах «крыху знізілася».

«Неабходна таксама актывізацыя працы тэатраў па падрыхтоўцы спектакляў для дзяцей і юнацтва», — лічыць міністр. На яго думку, галоўным пацвярджэннем паспяховай працы тэатраў з'яўляецца запаўняльнасць залаў, добрыя пастаноўкі, сцэнаграфія, ігра акцёраў.

Запаўняльнасць залаў застаецца высокай (75-85% у драмтэатрах і 95-100% — у лялечных), аднак яна крыху знізілася ў параўнанні з 2000 годам. «На жаль, гэты працэс можа актывізавацца, калі не будзе зменены падыход да работы над новымі пастаноўкамі і канцэртнымі праграмамі», — мяркуе Гуляка.

Паводле словаў міністра культуры, «сур'ёзнага аналізу» патрабуе дзейнасць ДА «Белканцэрт», творчага аб'яднання «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балету», а беларускае кіна- і відэамастацтва — «тая галіна, якая выклікае занепакоенасць з боку міністэрства культуры і кіраўніка дзяржавы». Пры гэтым, падкрэсліў Гуляка, «дзяржава зрабіла немагчымае — захавала бюджэтнае фінансаванне кінавытворчасці». «Нацыянальная студыя «Беларусьфільм» мае на 2002 год больш за 2 млн. даляраў ЗША на кінавытворчасць, якая датуецца амаль на 80%. Для параўнання: кінастудыя «Масфільм» датуецца дзяржавай на 30%», — паведаміў міністр.

**БелаПАН**

ВОЙСКА

## П'яныя прызыўнікі

Дзесяць навабранцаў адпраўлены Пінскім ваенным камісарыятам дадому з-за таго, што з'явіліся на прызыўны ўчастак у нецвярозым стане. Ні службовыя ваенкамату, ні афіцэры вайсковых часцей не рызыкнулі ўзяць пад сваю адказнасць нецвярозых прызыўнікоў. У выніку маладыя людзі былі вернуты бацькам, якія іх праводзілі. На прызыўнікоў складзены пратаколы аб адміністрацыйнай адказнасці. У цяперашні прызыў юнакі ўжо не трапяць.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Народ на латарэю не павёўся

У канцы мінулага снежня гродзенскія ўлады адзначылі царскія ўгодкі — 200-годдзе стварэння губерні. 26 студзеня збіраліся правесці тыраж «губернскай» латарэі, прысвечанай гэтай даце. Аднак давялося мерапрыемства перанесці на 2 сакавіка. Прычына празаічная — са 100-тысячнага тыражу насельніцтва выкупіла толькі палову білетаў, якія каштуюць па 1 500 рублёў. Хутчэй за ўсё, зараз зноўку пачнецца «прымусова-добраахвотнае» распаўсюджванне на прадпрыемствах.

Як ні дзіўна, не ўсе пераможцы мінулай латарэі забралі свае выйгрышы. Тыраж адбыўся чатыры месяцы таму. Аднак нават галоўны грашовы прыз — 1 мільён рублёў дагэтуль – не забраны.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Гродзенская міліцыя — лепшая

Па выніках мінулага году. Што ж, лепей — лепшая, чым горшая. Хоць, як вядома, генпракурор сказаў, што злачыннасць у краіне не зменшылася. Але ж міліцыя паведамляе наадварот. У немалой ступені гродзенскія міліцыянты якраз і выйшлі наперад дзякуючы абвешчанаму зьмяншэнню колькасці злачынстваў. Зрэшты, хай самі разбіраюцца — ліпавыя гэтыя лічбы ці не.

Дарэчы, за год 20 міліцыянтаў выгналі са службы за кіраванне машынай нападпітку. Як дасягненне падаецца тое, што менш гродзенскіх міліцыянтаў трапіла пад суд.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

МЯЖА

## Нелегалам перайшлі сцежку памежнікі

Паблізу вёскі Усохі Добрушскага раёну памежнікі Гомельскага атраду затрымалі 12 мігрантаў з Індыі. Яны спрабавалі нелегальна перасячы беларуска-ўкраінскую мяжу. Разам з нелегаламі схоплены і праваднік – 30-гадовы грамадзянін Украіны, жыхар суседняга Гарадняснкага раёну Чарнігаўскай вобласці.

Як паведаміў камандзір Гомельскага памежнага атраду палкоўнік Віктар Бутранец, пасля адпаведнай праверкі індусы будуць выпраўлены ў Расію, адкуль яны прыехалі. Украінскага праваднікa чакае адміністрацыйнае пакаранне. Паводле часткі 3 артыкулу 184 КоАП суд можа накласці на «ўкраінскага Сусаніна» штраф памерам да 3 мільёнаў беларускіх рублёў альбо прыцягнуць да папраўчай працы на тэрмін да 2 месяцаў. Гэта ў тым выпадку, калі раней грамадзянін Украіны не спрычыняўся да падобных дзеянняў на мяжы. А інакш яго чакае крымінальны пераслед.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

ЗДАРЭННІ

## Аварыя на Брузгах

На памежнай станцыі Брузгі з рэек сышлі два вагоны. Грузавыя, прычым парожнія. Ніхто не пацярпеў. Праўда, наладзіць рух удалося толькі праз паўсутак. Электрычку на Польшчу не здолелі прапусціць, вярнулі ў Гродна. Чыгуначнае начальства пастаралася, каб пра здарэнне ведалі як мага меней. Здавалася б, абышлося без ахвяраў, без вялікіх стратаў. Але прычына вядомая – страх. Начальнік Беларускай чыгункі арыштаваны. А таму астатнія адчуваюць сябе не вельмі ўтульна. Нават на сесіі Навагрудскага райсавету вярнуліся да свайго рашэння паўтарагадовай даўніны, каб унесці змяненні. А рашэнне гэтае датычыла перадачы ў арэнду возера Свіцязь чыгуначнікам, якімі да нядаўняга часу кіраваў зямляк навагрудцаў сп.Рахманько. Як кажуць, сцеражонага Бог сцеражэ, таму лепей падстрахавацца.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ЮБІЛЕЙ

## 70 гадоў тэатру імя Горкага

У 2002 годзе Дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя М.Горкага адзначыць сваё 70-годдзе. Юбілейныя мерапрыемствы плануецца правесці ў лістападзе-снежні гэтага году.

Цяпер у тэатры ідзе капітальны рамонт. Як паведаміў дырэктар тэатру Эдуард Герасімовіч, у 1999 годзе распараджэннем прэзідэнта Беларусі было выдзелена 86,3 млн. рублёў для рамонту. У далейшым для працягу рамонтных работ у тэатры дзяржава выдзеліла 488,5 млн. рублёў, з іх — 392 млн. з фонду рэзерваў прэзідэнта і 96,5 — з бюджэту міністэрства культуры. Сёлета павінны праводзіцца астатнія работы. Нягледзячы на рамонт, тэатр не спыніў дзейнасці. Артысты ўзялі ўдзел у чатырох міжнародных і адным рэспубліканскім тэатральных фестывалях. Адбыліся пастаноўкі спектакляў мастацкага кіраўніка тэатру Барыса Луцэнкі на сцэнах тэатраў рускай драмы ў Вільнюсе і Жэневе.

Герасімовіч паведаміў, што «па вядомых прычынах дзяржава не можа забяспечыць паўнавартасная датацыі, і зараз тэатр пастаўлены ва ўмовы самазабеспячэння».

**Маша ПЯТРОВА**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Настаўнікі зноў без грошай

Па стану на 21 студзеня запазычанасць бюджэту перад настаўнікамі перавысіла 17 мільярдаў рублёў. Пра гэта паведаміла старшыня Цэнтральнага камітэту рэспубліканскага прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі Тамара Чобатава.

У параўнанні з пачаткам году запазычанасць вырасла ў 10,5 раза. Яна паведаміла таксама, што пасля апошняга павышэння заработнай платы — 1 снежня 2001 году — 70% настаўнікаў «не атрымалі ні капейкі». Яшчэ адна праблема, якая, на думку Чобатавай, пагражае настаўнікам найбліжэйшым часам, — «сур'ёзна скарачэнні».

**Юрый ПАЦЁМКІН**

СУСЕДЗІ

### Авіятранзітныя візы

Услед за краінамі Еўрасаюзу ўрад Літвы зацвердзіў уводзенне новых – авіятранзітных – віз для жыхароў трэціх краінаў – так званых «краінаў-ізгояў», за транзітнае перасячэнне Літвы авіятранспартам. Выдаваць такія візы будуць у дыпламатычных прадстаўніцтвах і консульскіх установах Літвы, беручы за іх консульскі збор у памеры 5 даляраў. Гэтыя меры выкліканыя падвышэннем барацьбы з нелегальнай міграцыяй у еўрапейскія краіны.

### 45 мільёнаў даляраў на барацьбу з беспрацоўем

Узровень беспрацоўя ў Літве яшчэ дастаткова высокі. На рынку працы на сённяшні дзень зарэгістравана 220 тысячаў чалавек, гэта прыкладна 12,5%. Для параўнання: у развітых краінах беспрацоўе на ўзроўні 5% лічыцца нормай, а ў Еўразвязе беспрацоўе зараз складае каля 8%. Паводле статыстыкі, тыповы літоўскі беспрацоўны — гэта мужчына ў веку крыху болей за 40 гадоў, які згубіў працу падчас скарачэння штату альбо ліквідацыі прадпрыемства. Гэта — найчасцей жыхар невялікіх гарадоў альбо сельскай мясцовасці. Так, у Вільні беспрацоўе складае 8%, а зусім недалёка, у раёне, — ужо 20%.

У гэтым годзе на дапамогу па беспрацоўі, на навучанне новым прафесіям, стварэнне новых працоўных месцаў, утрыманне біржаў працы літоўская дзяржава выдаткавала 180 млн. літаў – гэта 45 млн. даляраў. Але па меркаванні спецыялістаў кожны літ з дзяржбюджэту, патрачаны на скарачэнне беспрацоўя, вяртаецца ў бюджэт у памеры 1.7 літаў.

### Візіт генсакратара *NATO*

У другой палове лютага адбудзецца візіт Генеральнага сакратара паўночна-атлантычнага альянсу Робертсана ў Літву. Гэта апошні візіт галавы *NATO* ў краіны, што з'яўляюцца кандыдатамі ўступлення ў альянс перад самітам, які мае адбыцца ў Празе. Падчас аднадзённага візіту ў Вільню Робертсан сустрэнецца з першымі палітыкамі Літвы: прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, спікерам і сябрамі літоўскага Сейма.

**Віктар КОРЗУН**

## Заробкі на Віцебшчыне

Зарплата сярэднестатыстычнага рабочага і службоўца за мінулы месяц на Віцебшчыне была на 9 даляраў ЗША (у эквіваленце) ніжэйшая, чым агулам па краіне – 159,2 тысячы супраць 174,4 тысячы рублёў. Іншымі словамі, праца тых, хто купляе хлеб у краме, ацэньваецца ў 2,3 раза вышэй за працу селяніна. І ў 3 разы вышэй за сялянскую ацэньваецца праца сярэднестатыстычнага работніка органаў дзяржаўнага кіравання, заробак якога складае прыблізна 204,6 тысячы рублёў. Яшчэ больш значныя заробкі ў тых, хто крэдытуе і страхуе эканоміку вобласці. Сярэднестатыстычны служачы банку за снежань атрымаў 273 тысячы рублёў — у 4 разы больш за работніка АПК.

**Леанід СІМАНАЎ**

УШАНАВАННЕ




● Помнікі воінам-вызваліцелям: Масква, пост №1 ля Магілы невядомага салдата; Мінск, пост №1 ля Вечнага агню памяці беларускім салдатам.

## У Гродне захварэў слон

Адзіны ў Беларусі слон, якога зваць Сурак, хварэе. Вялізная жывёліна, па сутнасці, прастаяла на адным месцы амаль 40 гадоў. Прывезлі яго ў 1964 годзе з ГДР. Было яму тады ўсяго 6 гадоў. Але ў савецкай дзяржавы заўжды хапала грошай на гонку ўзбраенняў, на бітву за ўраджай, а каб стварыць больш-менш прыстойныя ўмовы для зняволеных экзатычных жывёл — не. Амаль усё жыццё слон мусіў пражыць у цесным загончыку з невялікай паветкаю. Але хіба паветка ўратуе ад халоднай зімы ды ад старасці? А жыць яму засталося самае большае 6 гадоў, калі толькі ўдасца вылечыць. Жывуць такія жывёліны паўстагоддзя.

Супрацоўнікі заапарку імкнуцца ўратаваць Сурака. Яму патрэбна шмат лекаў і добрае харчаванне. У горадзе знаходзяцца людзі і арганізацыі, якія стараюцца дапамагчы лекамі і харчамі. Зрэшты, дзяржава таксама пачала выдзяляць грошы заапарку. Але — для набыцця новых жывёлаў. Шкада, што не для паляпшэння ўмоваў існавання тых, што ўжо ёсць. Атрымліваецца згодна са старой савецкай завядзёнкай – запрашаць вялікую колькасць людзей на працу і толькі потым пачынаць будаваць жыллё. Ці не лепей спачатку стварыць прыстойныя ўмовы для жывёлін, а ўжо потым купляць новых? Дарэчы, летась яны часам гінулі, бо ў заапарку не было элементарных рэчаў. Напрыклад, спецыяльнай стрэльбы, каб усыпляць вялікіх драпежнікаў дзеля таго, каб іх вылечыць.

**Сяргей НЁМАНСКІ**

У Празе створаны саюз пад назвай «Беларусы замежжа». Ён прапануе дапамогу ў справе эміграцыі ў Чэхію паводле палітычных матываў, дакладную інфармацыю, юрыдычныя кансультацыі, сацыяльную падтрымку. Тэлефоны ў Празе: 8-1042-0732-73-10-59 і 8-1042-0605-11-57-65.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Найважнейшая ўмова стабільнасці

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Гэта было першае за апошнія гады запрашэнне ў Страсбург такога высокага чыноўніка з Мінску. У сваім выступе ён пералічыў вядомыя аргументы за тое, што ў Беларусі існуе свабода СМІ. Сярод іх: адсутнасць абмежаванняў на падпіску апазіцыйнай прэсы, яе распаўсюджванне і права кожнага грамадзяніна выдаваць газету.

Прыняўшы да ведама думку міністра, удзельнікі дыскусіі звярталі асаблівую ўвагу на трывалую эканамічную дыскрымінацыю ў дачыненні да недзяржаўных СМІ. Як вядома, у Беларусі ўлады ўжываюць розныя тарыфы на распаўсюджванне друкаваных выданняў. Таму ў сваім выступе старшыня БАЖ прапанавала скасаваць такую эканамічную дыскрымінацыю. Гэтую прапанову, поруч з трыма другімі (дэманапалізацыя электронных СМІ, адпаведнасць законаў міжнародным абавязанням, узятым на сябе Беларуссю, і грамадскі кантроль у СМІ), удалося аформіць у якасці рэкамендацыяў, выкананне якіх дазволіць Беларусі вярнуць статус спецыяльна запрошанага ў Савеце Еўропы.

Цікава, што гэты пералік рэкамендацыяў быў станоўча ўспрыняты міністрам інфармацыі Падгайным. Больш за тое, ён публічна паабяцаў чальцам Камісіі СЕ накіраваць афіцыйнае запрашэнне для ўдзелу экспертаў Савету Еўропы ў меркаваных парламенцкіх слуханнях у Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па новым законапраекце аб СМІ. Як на гэтую ідэю адгукнуцца ў Мінску, пакуль не зусім ясна. Прынамсі, яснасці ў справе магчымага ўдзелу экспертаў з Савету Еўропы аніяк не дадае той сумбур выказванняў, які на дыскусіі прадэманстравалі некаторыя прысутныя дэпутаты ніжняй палаты Нацыянальнага сходу. Часамі яны дагаворваліся да таго, што іх палітычныя апаненты нікога не прадстаўляюць і з'яўляюцца палітычнымі трупамі. Мабыць, таму такі відны і ўплывовы палітык, як віцэ-спікер ніжняй палаты Уладзімір Канаплёў, і зусім вырашыў праігнараваць гэтую імпрэзу, адбыўшы напярэдадні з Страсбургу ў Мінск. Пэўна, яму хапіла сустрэч з кіраўнікамі розных структураў Савету Еўропы, якія прайшлі ў той жа дзень. Па некаторых звестках, ён пакінуў пра сябе безаблічнае ўражанне.

У чэрвені бягучага году ў Вільні павінна адбыцца паседжанне Палітычнага камітэту ПАСЕ. На ім зноў будзе абмяркоўвацца беларускае пытанне. На думку многіх назіральнікаў, выкананне афіцыйным Мінскам абяцання, дадзенага міністрам Падгайным, – запрасіць еўрапейскіх экспертаў па беларускім законапраекце пра СМІ, – стане своеасаблівым тэстам. Яго вынікі таксама плануецца падсумаваць на летнім паседжанні Палiткамітэту ПАСЕ.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**
Страсбург




## Мінск фармулюе свае правілы

Візіт дэлегацыі Парламенцкай асамблеі АБСЕ на чале са старшынёй Рабочай групы па Беларусі Утай Цапф, планаваны на 5-6 лютага, адмяняецца. Парламенцкую асамблею не задавальняюць умовы арганізацыі і ажыццяўлення візіту: беларуская ўлады настойваюць на візіце без удзелу кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску.

Пра гэта 23 студзеня на сесіі Парламенцкай асамблеі Савету Еўропы заявіў дзейны прэзідэнт ПА АБСЕ Адрыян Северын. Характарызуючы цяперашнюю палітыку Беларусі як «самаізаляцыю», Адрыян Северын падкрэсліў, што «беларуская ўлады выставілі непрымальныя ўмовы прыезду».

Рэч у тым, што афіцыйны Мінск выключыў КНГ АБСЕ з працэсу арганізацыі і правядзення візіту.

Афіцыйны Мінск бачыць галоўную мэту Рабочай групы ПА АБСЕ па Беларусі ў «наладжванні канструктыўнага дыялогу паміж кіраўніцтвам Асамблеі і парламентам Беларусі , а таксама ў распрацоўцы механізму як найхутчэйшага падключэння беларускіх парламентарыяў да актыўнай дзейнасці ў рамках ПА АБСЕ».

Міністр замежных справаў Міхаіл Хвастоў выказаўся яшчэ раз адносна перагляду мандату КНГ АБСЕ ў Мінску. «Галоўная задача сёння – гэта пошук механізмаў і вызначэнне дакладных прававых рамак у дзейнасці КНГ АБСЕ, якія дазволілі б сапраўды рашаць усе пытанні, ускладзеныя на яе ў адпаведнасці з мандатам, зацверджаным Пастаянным саветам АБСЕ».

**Рыгор БУЯН**

## У «псіхушцы» – рашэннем следчага

Былы кіраўнік закрытага акцыянернага таварыства «Атлант» Леанід Калугін змешчаны ў Рэспубліканскую псіхіятрычную бальніцу (пасёлак Навінкі пад Мінскам) на падставе пастановы следчага для правядзення стацыянарнай экспертызы. Пра гэта ў інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАНу паведаміў загадчык ахоўнага аддзялення бальніцы Аляксандр Чамкаеў. Раней прадстаўнікі абароны Калугіна заяўлялі, што кіраўнік следчай групы не падпісваў такой пастановы, і Калугін быў змешчаны ў клініку па рашэнні Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, якая курыруе справу.

Леанід Калугін абвінавачваецца ва ўчыненні злачынстваў па артыкулах 424, частка 3 (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі), 225 (невяртанне з-за мяжы замежнай валюты) і 233, частка 2 (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць) Крымінальнага кодэксу Беларусі. Следства ў дачыненні да яго вядзе следчая група дэпартаменту фінансавых расследаванняў Камітэту дзяржкантролю Беларусі.

Узялі пад варту Леаніда Калугіна 21 лістапада 2001 году. Тэрмін яго ўтрымання пад вартай нядаўна быў працягнуты да 5 месяцаў. Змясцілі яго для правядзення экспертызы ў ахоўнае аддзяленне Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы 9 студзеня. Пры гэтым ні абарона, ні сам Калугін не былі азнаёмлены з гэтай пастановай. На працягу двух дзён адвакаты і сваякі не ведалі, што Калугіна перавялі ў псіхіятрычную лякарню.

Адвакат Аляксандр Пыльчанка заявіў карэспандэнту БелаПАНу: «Для таго, каб прызначыць экспертызу і змясціць арыштаванага ў медустанову, Крымінальна-працэсуальны кодэкс прадугледжвае вынясенне асобнай пастановы следчага і санкцыю пракурора. З гэтым дакументам павінен быць азнаёмлены як сам абвінавачаны, так і яго абарона. Аднак гэтай пастановы мы не бачылі, як не бачыў яе і Калугін. Ёсць толькі пастанова аб правядзенні судмедэкспертызы, без удакладнення, якой менавіта – стацыянарнай ці амбулаторнай».

Аляксандр Чамкаеў, у сваю чаргу, заявіў БелаПАНу, што ў яго ёсць пастанова следчага аб правядзенні экспертызы ў стацыянарных умовах. У ёй пастаўлены пытанні, якія эксперты павінны вырашыць. На пытанне, ці азнаёмлены Калугін з пастановай, доктар не змог адказаць – бо гэта не ўваходзіць у сферу яго абавязкаў. Аднак ён мяркуе, што, хутчэй за ўсё, азнаёмлены. Калугін не заяўляў хадайніцтва аб адводзе эксперта. Экспертыза, паводле словаў Чамкаева, праходзіць нармальна і працягнецца яшчэ «тыдзень-паўтара». Самаадчуванне Калугіна нармальнае, кажа доктар.

Адвакаты Калугіна заявілі таксама, што насуперак паведамленням некаторых СМІ, абвінавачанні, прад'яўленыя іхняму кліенту, не змяняліся.

**Генадзь БАРБАРЫЧ,**
**БелаПАН**

ПРАФСАЮЗЫ

## Шахцёраў не падтрымалі

Незалежны прафсаюз гарнякоў пацвердзіў намер 1 лютага з 12.00 да 12.05 спыніць працу на ВА «Беларуськалій». Гэта, па словах старшыні прафкаму БНП «Беларуськалія» Мікалая Новіка, будзе не страйк, а акцыя, якая «пройдзе ў рамках закону». Такім чынам гарнякі патрабуюць ад ураду і Аляксандра Лукашэнкі адмяніць антыпрафсаюзную пастанову, якая скасавала механізм безнаяўнага пералічэння прафсаюзных унёскаў.

Апрача таго, узнаўляецца дзейнасць стачкамаў, створаных яшчэ ў 1992 годзе. Апошнімі часамі яны не працавалі.

«Прафкамы рыхтуюцца ўступаць у працоўныя калектыўныя спрэчкі з адміністрацыямі прадпрыемстваў. На «Беларуськаліі» мяркуецца запатрабаваць 50%-га павелічэння заробкаў дапаможным цэхам, работнікам аховы здароўя, інжынерна-тэхнічным работнікам. Мы вымушаны пакуль што ладзіць акцыі пратэсту, на жаль, у рамках аднаго гораду», – сказаў старшыня БНП Віктар Бабаед.

Іншыя прафсаюзы, у прыватнасці, Свабодны прафсаюз ды Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская, якая найбольш пацярпела ад пастановы Савету міністраў, самаўхіліліся ад акцыяў салідарнасці з шахцёрамі.

**Рыгор БУЯН**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Камеры для медыкаў і настаўнікаў

У 2001 годзе ў Беларусі да крымінальнай адказнасці былі прыцягнуты каля 400 кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый. Аб гэтым паведаміў міністр унутраных справаў Беларусі Уладзімір Навумаў на выніковай калегіі МУС, што прайшла 25 студзеня ў Мінску.

Вынікі працы МУС у гэтым кірунку, паводле словаў міністра, – «абнадзейваючыя».

Разам з тым, сказаў Навумаў, «не на належным узроўні» знаходзіцца барацьба з хабарніцтвам, «асабліва ў медыцынскіх установах, сістэме адукацыі і многіх іншых сферах». На думку Навумава, «адзначаецца працэс зрошчвання крымінальну, ценявога бізнесу і часткі чыноўнікаў». Арганізаваныя злачынныя фармаванні робяць спробы пашырыць свой уплыў на даходныя і рэнтабельныя галіны эканомікі, выкарыстоўваюць у гэтых мэтах прабелы дзеючага заканадаўства, подкуп, шантаж і пагрозы. Паводле словаў міністра, найбольш даступныя для крымінальнай экспансіі крэдытна-фінансавая сістэма, рынак нерухомасці, сфера прыватызацыі, аўтамабільны, алкагольны і тытунёвы бізнес.

У мінулым годзе, паведаміў міністр, выяўлена 112 арганізаваных злачынных груп, да крымінальнай адказнасці прыцягнута 286 лідэраў і ўдзельнікаў.

**Юрый КАСЬЯНАЎ,**
**БелаПАН**

## Дыялогу ў Наваполацку не будзе

Катэгарычнай адмовай адказаў Наваполацкі гарвыканкам на прапановы мясцовай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі правесці дыялог па праблемах сацыяльна-эканамічнага развіцця гораду і краіны. Паводле словаў кіраўніка Наваполацкай арганізацыі АГП Валерыя Шаўчэнкі, адмова была патлумачаная тым, што прапанаваныя для абмеркавання пытанні не адпавядаюць узроўню гарвыканкаму.

Цяперашняя пазіцыя наваполацкага кіраўніцтва цалкам супярэчыць яго ж ранейшай думцы, выказанай у адмысловым лісце старшыні гарвыканкаму Аляксандра Камарова ад 6 снежня мінулага году, дасланым у АГП.

Падчас асабістых сустрэч з намесніцай старшыні гарвыканкаму па інфармацыі Святланай Туронак, якія праходзілі на працягу ўсяго снежня і паловы студзеня, В.Шаўчэнку ўдалося дамовіцца пра тое, што ў «круглым стале», як было названа планаванае мерапрыемства, возьмуць удзел па дзесяць чалавек з абодвух бакоў. Згодна з дасягнутай дамоўленасцю, першая такая сустрэча мелася адбыцца ў будынку гарвыканкаму. Заставалася назваць канкрэтную дату правядзення наваполацкага «дыялогу», што, паводле словаў В.Шаўчэнкі, Святлана Туронак паабяцала зрабіць 25 студзеня. Замест гэтага яна ад імя свайго кіраўніцтва адмовілася ад якога-колькек дыялогу з мясцовымі апазіцыянерамі. На думку наваполацкіх сябраў АГП, выказанай у адмысловай заяве, адмова ад дыялогу на рэгіянальным узроўні яшчэ раз паказвае, што ўлада пакуль не гатовая ісці па шляху дэкляраванай лібералізацыі і дэмакратызацыі.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

## Лівія інвеструе ў Беларусь

У 2001 годзе доля замежнага капіталу ў статутных фондах беларускіх банкаў вырасла з 4,5 да 9,6%.

Як паведаміў кіраўнік Нацбанку Беларусі Пётр Пракаповіч, замежныя інвестары летась уклалі ў статутныя фонды беларускіх банкаў каля 10 млн. даляраў. Інвестыцыі паступілі з Вялікабрытаніі, ЗША, Аўстрыі, Лівіі, Швейцарыі, Кіпру, Расіі, Літвы і Латвіі.

Паводле словаў Пракаповіча, лівійскія інвестыцыі былі скіраваны ў статутны фонд «Інфабанку». «Яны будуць мець у найбліжэйшы час прыкладна 35% акцый гэтага банку, і ў перспектыве іх доля можа павялічыцца», – сказаў кіраўнік Нацбанку.

Долю расійскага капіталу ў агульным аб'ёме інвестыцый у банкаўскі сектар Беларусі ў Нацбанку лічаць нязначнай, але мажлівы прыход такога капіталу «вітаецца». Як заявіў Пракаповіч, сёння вядуцца перамовы адразу з некалькімі буйнымі расійскімі банкамі.

Сёння на беларускім рынку дзейнічаюць тры банкі са значным удзелам расійскага капіталу – замежны банк «Масква-Мінск», «Белгазпрамбанк» і «Слаўнафтабанк».

**Аляксей АРЭШКА**

## Шлях да банкруцтва

Па выніках 2001 году 35,5% прамысловых прадпрыемстваў Беларусі аказаліся стратнымі. Пра гэта 24 студзеня на сустрэчы з журналістамі ў Мінску паведаміў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Франц Вітко. Паводле ягоных звестак, у 1998 годзе стратных прадпрыемстваў у краіне было 16,2%; у 1999 – 17,1%; у 2000 – 23,4%.

Паводле словаў лідэра ФПБ, яшчэ горшыя справы з платаздольнасцю прадпрыемстваў. Тут таксама ў апошнія гады адзначаецца адмоўная тэндэнцыя: у 1998 годзе платаздольнасць прадпрыемстваў складала 31,3%; у 1999 – 32,1%; у 2000 – 20,2%; у 2001 годзе гэты паказчык склаў усяго 12,3%.

Гэта азначае, што калі ў прадпрыемстваў забраць усе абаротныя сродкі, то яны змогуць пагасіць пратэрмінаваныя даўгі толькі на 12,3%. Калі б пачалася працэдура вяртання даўгоў у судовым парадку, абсалютная большасць беларускіх прадпрыемстваў аказалiся б банкрутамі. «І тут мы сапраўды знаходзімся на парозе лібералізацыі, бо пры такім стане, пры такой ступені ўмяшання дзяржавы захаваць гэтыя аб'яднанні ўжо немагчыма», – лічыць Ф.Вітко. У гэтай сітуацыі асабліва ўзрастае роля прафсаюзаў, якія павінны будуць адстойваць інтарэсы работнікаў прадпрыемстваў, сказаў лідэр ФПБ.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН**

## «Газпрам» гатовы адкласці будаўніцтва газаправоду ў абход Украіны

Новае кіраўніцтва ААТ «Газпрам» да прызначанага на 4 лютага гэтага году паседжання Рады дырэктараў кампаніі вырашыла перагледзець сваю фінансавую і экспартную стратэгію: манаполія мае намер адкласці будаўніцтва газаправоду ў абход Украіны, паведамляе газета *«Ведомости»*.

Паводле яе інфармацыі, партфель доўгатэрміновых экспартных кантрактаў «Газпраму» цяпер складае 2,3 трлн. куб. м газу. Кантрактныя абавязацельствы газавай манаполіі па гадавых пастаўках газу ў Еўропу павінны вырасці з 156,5 млрд. куб. м у 2002 г. да 195,9 млрд. куб. м у 2010 годзе. Для пракачкі гэтых аб'ёмаў «Газпраму» трэба ў будучыні пабудаваць адзін з трох газаправодаў: «Паўночна-Еўрапейскі» (цераз Фінскі заліў і Балтыйскае мора ў Германію), газаправод у абход Украіны «Кобрын – Вельке Капушаны» або другую нітку «Ямал–Еўропа». На газатранспартную сістэму ў гэтым годзе «Газпрам» збіраецца выдаткаваць 82 млрд. рублёў.

Як адзначаецца ў матэрыялах, падрыхтаваных да паседжання Рады дырэктараў «Газпраму», аб'ёмы экспарту кампаніі да 2008 году павінны складаць 170 млрд. куб. м газу ў год. Каб выканаць гэтыя кантрактныя абавязацельствы, досыць будзе запуску экспартных праектаў «Ямал–Еўропа» (першая нітка) і «Блакітны паток», а таксама расшырэння газаправодаў на тэрыторыі Украіны, Румыніі і Балгарыі для паставак газу ў Турцыю. Мяркуецца, што прыбытак «Газпраму» ад двух першых праектаў складзе больш за 3 мільярды даляраў у год.

У той жа час будаўніцтва газаправоду-перамычкі «Кобрын–Вельке Капушаны» ў абход Украіны можа быць перанесена на пазнейшы перыяд, беручы пад увагу дасягнутыя апошнім часам дамоўленасці з Украінай, паведамляецца ў матэрыялах Рады дырэктараў кампаніі.

16–17 студзеня гэтага году ў ходзе афіцыйнага візіту прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Ул. Пуціна ў Польшчу абмяркоўваліся пытанні будаўніцтва газаправоду з Расіі ў Заходнюю Еўропу цераз беларускую і польскую тэрыторыю. Раней Польшча настойвала на тым, што ў будаўніцтве гэтага газаправоду мусіць браць удзел Украіна.

ААТ «Газпрам» экспартуе ў краіны Заходняй і Усходняй Еўропы штогод 130 млрд. куб. м газу, з якіх каля 90% праходзяць транзітам праз тэрыторыю Украіны.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Дзедацыд: жыццё на 2/3

*А маладому што: нешта з'еў – і добра, крыху адпачыў пасля працы – і можна бегчы, скакаць. Лёг сабе – і спіць адразу. Чаравікі не муляюць, холад у плечы не бярэцца, зубамі можна піва раскаркоўваць.*

Ага, потым ні зубоў, ні... Ды што там казаць. Той, каторы думае, быццам старому жыць меней хочацца, альбо маладзы, альбо не надта разумны. І жыць хочацца, і шмат што трэба. Дарэчы, значна болей, чым маладому.

Дык чаму тады пенсіянераў у нас зараз болей, чым маладых, а грамадства робіць выгляд, быццам іх наагул няма. Будучыня – гэта ж не толькі сталенне дзяцей, гэта таксама старасць бацькоў і іхнія хваробы, і сумесь радасці і клопатаў доўгага жыцця, што робіцца гарчэйшая з кожным годам.

А мы адмахнуліся мізэрнай пенсіяй і не хацім зважаць на відавочныя рэчы. Вось жыццё чалавека: спачатку ён малы і бездапаможны, бацькі яго кормяць, гадуюць; потым сталее, робіцца самастойны, сам заводзіць сям'ю; і нарэшце робіцца стары, працаваць не можа – зноў патрабуе дагляду, як дзіця.

Але ж дзіцячае харчаванне, дзіцячае адзенне і абутак ёсць, старэчага – няма. Споднюю кашулю з доўгім рукавом не знойдзеш. Камізэлек цёплых на гузіках няма. Той жа швэдар праз галаву цяжка нацягнуць. Як надзець старой бабе модныя чаравікі на хворыя ногі?

Зноў жа. Атрымліваецца, што ўсе прызнаюць: малому сыну прыбіральшчыцы патрэбная дзетсадаўская пайка такая самая, як і сыну лекара альбо машыніста, а стары машыніст патрабуе меней, чым стары міністр.

Цікава, ці павернецца ў каго язык сказаць, што ёсць у нас зараз капіталізм і пенсія. Маўляў, колькі зарабіў за жыццё, тым і карыстайся. Ідзі і купляй, што табе там трэба. А як пралайдачыў усё жыццё, дык няма чаго ныць.

Мо яно і так. Не будзем пра ўсіх. Зірнем кожны на сябе, грэшнага. Прычым, модна, у далярах. Гэта грошы не тандэтныя і дазваляюць тое-сёе параўнаць. Прыкладам, ці можа самы бесталковы чалавек адкладаць штомесяц па дзесяць даляраў? Натуральна. З кожнага ж бяруць штомесяц у пенсійны фонд значна болей.

Ну, няхай сабе дзесяць. Памножым на 12 ды потым на 30. Атрымаецца з працэнтамі за тыя трыццаць гадоў не менш за 10 000 даляраў. І гэта пры малых працэнтах і без усялякіх хітрыкаў.

Мужчына ў сярэднім жыве ў нас 62 гады, жанчына – 74. Дваццаць тысячаў на шаснаццаць гадоў. Сто даляраў на месяц павінна выходзіць. Але ўсё гэта толькі фантазіі, якімі можна абменьвацца, седзячы на лаўцы пасля лазні.

Насамрэч грашовыя плыні складаюцца з такога мноства малых і вялікіх ручаінаў, якія столькі разоў перакрыжоўваюцца, што адсачыць рух вашага канкрэтнага рубля проста немагчыма. Тым не менш, нешта сплывае, нешта прыходзіць. Як яно адбываецца за апошнія дзесяць гадоў, варта паглядзець на лічбах.

Адкуль бяруцца грошы на ўтрыманне старых цяпер? Акрамя асігнаванняў на сацыяльнае забеспячэнне з бюджэту, рэсурсы дае фонд сацыяльнай абароны, у які штомесяц трапляе сума, роўная прыкладна 35% ад фонду заработнай платы. На пенсіі ідзе тры чвэрці ад сабранага. Дзяліць грошы даводзіцца больш чым на два з паловаю мільёны чалавек.

Пенсіі па ўзросце атрымліваюць больш за 80% тых, хто мае працоўныя пенсіі. Яны адпрацавалі не менш за чвэрць стагоддзя: мужчыны маюць больш за 60 гадоў і жанчыны – больш за 55. Гэта значыць, што сістэма наша грунтуецца на салідарнасці і бягучым фінансаванні.

У начальнікаў бацькі (а не бацькі, дык дзядзькі-цёткі) пераважна сядзяць у вёсцы. Таму пра жыццё пенсіянераў яны сёе-тое ведаюць. Сваім, калі разумныя, прабіваюць максімальнае павелічэнне. Так што салідарнасць наша беларуская сапраўды ёсць.

Дзеля астатніх – бягучае фінансаванне: «Прадугледжаныя канкрэтныя меры па паляпшэнні».

Чаго тыя меры вартыя – усім вядома. Існуе нават праграма па праблемах старых людзей на перыяд да 2005 году, нібыта пасля 2005 году старых не застанецца альбо праблемы знікнуць.

Куды яны падзенуцца – маю на ўвазе і старых, і праблемы? І ў тых, і ў другіх магутныя генетычныя гарантыі доўгага існавання.

Возьмем, напрыклад, мінімальную пенсію. Сэнсу ў ёй, дарэчы, крыху болей, чым у нашай мінімальнай заработнай плаце. Таму што асновай для разлікаў тут выступае велічыня бюджэту, спажывецкага мінімуму і сярэдняй заработнай платы. Гэта было б выдатна, калі б той спажывецкі мінімум не грунтаваўся на гэтак званых «рацыянальных нормах спажывання», каторыя змяняліся разам з лініяй партыі, а цяпер прадвызначаюцца магчымасцямі бюджэту.

Таму пераразлік звязаны, пэўным чынам, з пераглядам велічыні бюджэту спажывецкага мінімуму ды з ростам зарплаты і працоўных пенсіяў і цягне за сабою ўдакладненне сацыяльных пенсіяў, надбавак і даплатаў, што звязаныя падзаконнымі актамі з мінімальнай пенсіяй па ўзросце.

Пераразлікі – гэта файна. Яны даюць працу многім тысячам знерваваных жанчынаў у вязаных кофтачках, салідным начальнікам з саветаў, сабесаў, жэсаў і іншых мрэкаў. Пераразлікі прымушаюць біцца часцей сэрцы мільёнаў пенсіянераў, калі, зазірнуўшы пад бялізну ў шафе, яны бачаць тоненькі стосік каляровых паперак, намінал якіх смеху варты ў параўнанні з цэнамі.

Гэтыя цэны нават у сне кружацца перад вачыма, нібыта лічбы на ашалелым спідометры, і не даюцца ў памяць. Танныя прадукты, танныя прадукты... Большасць гэтых танных прадуктаў купляюць маладыя і здаровыя, бо часу маюць крыху больш, чым пенсіянеры, покуль дзяцей не завядуць.

Дзяржстатыстыка радуе нас паведамленнямі, маўляў, у выніку бягучага фінансавання памер сярэдняй пенсіі па ўзросце ў адносінах да МСБ змяняўся так, а да велічыні МСБ пенсіянера гэтак. Усё разам гэта смеху і слёз варта, бо круцілася апошнія дзесяць гадоў вакол смешнай сумы 30-40 даляраў ЗША.

Таму і сёння радуйцеся, старэнькія! У параўнанні з лістападам снежаньская рэальная пенсія паводле мінстату зменшылася ў стасунку да росту цэнаў на 5%. А сярэдні памер прызначанай месячнай пенсіі па краіне дык і наагул дасягнуў 2/5 сярэдняй зарплаты і 2/3 мінімальнага спажывецкага бюджэту пенсіянера.

На гэтым фоне нешта нясмела павісквае пра лібералізацыю нашае маладое і рашучае начальства. І калі ўжо вы, хлопцы, вызначыцеся са структурай пенсійнай сістэмы раз і назаўжды, з яе прававымі і фінансавымі падмуркамі, прынцыпамі пабудовы, парадкам пенсійнага страхавання на ўзроўні дзяржавы, фірмаў і асобаў?

Цяжка думаць, яшчэ цяжэй арганізоўваць. Гэта не пра інтэграцыю языкамі мянціць. Думаць пара. Сёння ўжо крыху больш за паўтары сотні работнікаў ледзьве паспявае зарабляць пенсію на 100 пенсіянераў. У той жа час наблізілася да старасці самая вялікая па колькасці кагорта беларусаў, што нарадзіліся з 1945 па 1955 гады.

За апошнія дзесяць гадоў насельніцтва скарачалася, але колькасць працаздольных скарачалася ў дзесяць разоў хутчэй. І паводле падлікаў некаторых экспертаў, рэальная пенсія паменела амаль на 1/5.

Фармальная і рэальная галеча старых адбіваецца на спажывецкім рынку, бо ў балансе грашовых прыбыткаў насельніцтва сацыяльныя трансферты складаюць шостую частку, а гэта на 9/10 — пенсіі.

Паглядзеўшы на цяжкую старасць, маладыя працаваць не хочуць.

Дзедацыд нейкі атрымліваецца. Дзядоў усё ж меней, чым бабак, застаецца. Ім 2/3 мінімальнага спажывецкага бюджэту пенсіянера на доўгае жыццё чамусьці не хапае.

Вось бы ўзяць ды «засядацелям» палатным устанавіць зарплату, роўную гэтым дзвюм трэцім. Мо заварушыліся б. А то даўно нешта пенсіяў не прыбаўляюць.

**Юзік ЛАБЭЦКІ, дзед**




ГАНДАЛЬ

## Беларусь пераважыла Расію

*Беларусь завозіць у Расію тавараў з трэціх краін у восем разоў болей, чым Расія – у Беларусь.*

У Мінску чакаюць ад Масквы праяваў палітычнае волі для поўнай уніфікацыі мытнага заканадаўства абедзвюх краін.

Для поўнай уніфікацыі мытнага заканадаўства Беларусі і Расіі патрабуецца палітычная воля, перадусім з расійскага боку. Пра гэта заявіў старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэту Беларусі Аляксандр Шпілеўскі.

Ён лічыць, што прынятыя ўрадам РФ у аднабаковым парадку рашэнні 1999-2001 гадоў «нейкім чынам паўплывалі на ацэнку цэласнасці мытнай прасторы». На думку кіраўніка беларускага ДМК, рашэнні расійскага боку носяць «больш тэхнічны характар і выкліканы неадэкватнай ацэнкай працэсаў, якія адбываюцца на тэрыторыі Беларусі». У якасці прыкладу такога рашэння А.Шпілеўскі назваў «увод Расіяй пунктаў прыёму ўведамленняў на сваёй мяжы». Па яго ных звестках, гэтых пунктаў 16, на іх працуюць каля 300 чалавек. «І яны ўведзены з-за неразумення або з-за нязгоды расійскага боку наконт падаткаў на тавары, якія паходзяць з трэціх краін».

Кіраўнік беларускага ДМК паведаміў, што мэтазгоднасць уводу Расіяй мытных пунктаў сёння не пацвярджаецца статыстычнымі звесткамі мытняў дзвюх краін. «З Расіі да нас завозіцца тавараў трэціх краін на суму больш як 60 млн. даляраў, з Беларусі ў Расію – недзе на 509 млн. даляраў», — падкрэсліў А.Шпілеўскі.

Ён як сябра ўрадавай дэлегацыі на папярэдніх перамовах прэм'ер-міністраў дзвюх краін ужо казаў пра неабгрунтаванасць уводу мытных пунктаў кіраўніку ўраду Расійскай Федэрацыі. Адносна другіх праблемных пытанняў мытнага рэгулявання дзвюх краін А.Шпілеўскі наўпрост заявіў, што мытныя камітэты Беларусі і Расіі «толькі інструменты ўнутранай і знешняй палітыкі лідэраў дзвюх дзяржаваў».

Пры наяўнасці «палітычнае волі кіраўніцтва, і асабліва расійскага, усе супярэчнасці паміж мытнымі камітэтамі могуць быць зняты вельмі хутка, бо яны носяць чыста тэхнічны характар», — адзначыў А.Шпілеўскі.

**УА ИНТЕРФАКС**

# Беларускія банкаматы бяруць з боем

*Калі нават у Мінску, дзе ўжо ўсталявана некалькі дзесяткаў банкаматаў, яны застаюцца для многіх жыхароў гораду экзотыкай, то ў беларускай правінцыі машыны па выдачы грошай успрымаюць увогуле як дзіва.*

Тым не менш, улады Магілёўскай вобласці Беларусі вырашылі, што ў найбліжэйшы час усе працаўнікі бюджэтнай сферы будуць атрымліваць зарплату шляхам пералічэння на дэбетныя карткі. Абласны выканкам пастанавіў, што ўжо з 1 лютага на гэтую сістэму пяройдуць супрацоўнікі ўстановаў культуры, фізкультуры і спорту, а з 1 сакавіка – аховы здароўя і адукацыі.

Аднак, як паведаміла галоўная прэзідэнцкая газета «*Советская Белоруссия*», ува ўсім горадзе Магілёве з насельніцтвам каля 400 тысяч чалавек «пакуль толькі 2 банкаматы, дзе можна атрымаць зарплату, — на прахадной аб'яднання «Хімвалакно» (на ўскраіне гораду) і ў зале чакання чыгуначнага вакзалу». Газета таксама працытавала намесніка начальніка абласнога ўпраўлення Ашчаднага банку «Беларусбанк» Тамару Славінскую, якая паабяцала павялічыць колькасць банкаматаў яшчэ на 2. Такім чынам, у абласным цэнтры іх стане 4.

Між тым, Беларускае ТБ перадало, што ўжо пад канец лютага ў Магілёве з'явяцца «яшчэ 100 банкаматаў ува ўсіх буйных прадпрыемствах гандлю і сферы абслугоўвання». Як высветлілася, тэлебачанне пераблытала банкаматы з плацежнымі тэрміналамі, якія будуць прымаць карткі дзеля разлікаў за пакупкі ў крамах. Такіх тэрміналаў будзе ўсталявана 60. Яшчэ ў кожным з 30 магілёўскіх філіялаў Ашчадбанку ёсць апараты, з дапамогай якіх пасля прад'яўлення карткі грошы выдае касір.

Прычынай абанкамачвання самай адсталай беларускай вобласці стала тое, што грошы канчаюцца не толькі ў банкаматах, але і ў банкаўскіх сховішчах. Аказваецца, на Магілёўшчыне банкі заўсёды выдавалі больш гатоўкі, чым атрымлівалі назад. Мудры аблвыканкам вырашыў затрымаць «зайчыкі» на малой радзіме, бо думае, што частка зарплаты павісне на карткавых рахунках. Аднак чыноўнікі забылі, што ў Беларусі самая высокая ў СНД інфляцыя, таму насельніцтва імкнецца як найхутчэй пазбыцца беларускіх рублёў, купіўшы за іх даляры ці яшчэ што-небудзь.

Між тым, самае смешнае ў беларускіх банкаматах не гэта. У краіне існуюць дзве абсалютна не звязаныя між сабою сеткі банкаматаў – «Белкарт» (нацыянальная плацёжная сістэма, гаспадаром якой нядаўна стаў Нацыянальны банк) і міжнародная. Самыя надзейныя і зручныя банкаматы «Белзнешэканамбанку», якія выдаюць грошы па ўсіх тыпах міжнародных картак абедзвюх папулярных сістэм *VISA* і *Mastercard*, — у іх за адзін раз можна зняць максімальную суму 200 тысяч беларускіх рублёў (каля 120 даляраў). Гэтае абмежаванне афіцыйна тлумачыцца тым, што больш тоўсты пачак «зайчыкавых» банкнотаў не пралезе ў шчыліну банкамата. Адзін з банкаматаў гэтага банку (у сцяне яго штаб-кватэры на Заслаўскай вуліцы) славіўся тым, што доўга выдаваў яшчэ і даляры ЗША, прычым абсалютна бясплатна (гэта значыць, пры зняцці 200 даляраў гатоўкаю з рахунку кліента ў любым замежным банку спісваліся менавіта 200 даляраў і ні цэнтам болей). Цяпер даляравая камісія складае там 2 працэнты.

А найбуйнейшы дзяржаўны «Беларусбанк» рэкламуе свае банкаматы сеткі «*Cirrus-Maestro*», якія быццам прымаюць і *Mastercard* (у сістэму *VISA* банк не ўступіў), але некалькі спробаў зняць грошы па картках гэтага тыпу не скончыліся поспехам. Тут максімальная сума — 125 тысяч. Нашто Беларусі дзве сеткі картак, ніхто патлумачыць не можа.

**Агенцтва «Ю.С.Ньюс»**

ЭКСПРЭС

## Эканамічныя нататкі

### Сталіцу ўладкоўваюць збольшага з гандлёвага боку

Сёлета ў Мінску павінен з'явіцца яшчэ адзін кірмаш – «Заходні» — на 300 гандлёвых месцаў. Там жа плануецца адчыніць крамы агульнай плошчай 200 кв. метраў. У новых мікрараёнах Лошыца-2 і Сухарава-2,3,6 будуць пабудаваны крамы плошчай 700 кв. метраў. У камітэце па эканоміцы і рыначных зносінах Мінгарвыканкама паведамілі, што ў гэтым годзе плануецца ўвесці ў эксплуатацыю комплекс «Няміга», а таксама скончыць працы на крытым «ракаўскім кірмашы».

### Рым можа нашкодзіць еўравалюце

Паслабленне адзінай еўрапейскай грашовай адзінкі ў адносінах да амерыканскага даляра адзначана за апошні тыдзень на розных біржах. Курс Еўрапейскага Цэнтральнага Банку паменшыўся да 0,871 даляра. Па ацэнках экспертаў, падзенне курсу еўра з'явілася рэакцыяй біржаў на заяву з боку Італіі аб намеры адстойваць свае эканамічныя і нацыянальныя інтарэсы ў ЕС.

### Гарадскі транспарт будзе аплачвацца на 50%

У гэтым годзе мінчане найменш два разы перажывуць павелічэнне тарыфаў на праезд у гарадскім пасажырскім транспарце. Па словах начальніка ўправы транспарту і сувязі Мінгарвыканкаму Уладзіміра Сасноўскага, бюджэт прадугледжвае, што ў 2002 годзе гараджане павінны аплачваць 50% рэальнага кошту праезду, а не 30%, як цяпер. Спецыялісты ўзгаданай управы ўжо даслалі ў Савет міністраў і ў Мінгарвыканкам прапанову аб павелічэнні кошту адной паездкі ў гарадскім транспарце да 150 рублёў.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Бібліятэкі прагнуць новага жыцця

*На фінансаванне культуры ў Беларусі ідзе ўсяго 1,8% ад даходнай часткі бюджэту. Дык не дзіва, што ў бібліятэках скарачаюцца кніжныя фонды, з кожным годам усё менш выданняў у газетных залах, а бібліятэкары атрымліваюць самыя малыя заробкі сярод культработнікаў. Меней хіба што калгаснікі маюць. Затое наведнікаў у бібліятэках усё болей і болей.*

Замест таго, каб плаціць бібліятэкарам прыстойныя грошы, дзяржава змагла толькі пацешыць іх святам: сёлета ўпершыню будзе адзначацца Дзень бібліятэкара. Абдудзецца гэта 15 верасня. Дату абралі невыпадкова: у гэты дзень была заснаваная Нацыянальная бібліятэка. Дарэчы, сёлета яна адзначыць сваё 80-годдзе. Але новы будынак для яе пачнуць будаваць на рагу праспекта Скарыны і вуліцы Філімонава не ў гэтым годзе, а толькі ў сакавіку 2003-га. Завяршэнне будаўніцтва мяркуецца на 2006 год, а весцiся яно будзе пад патранажам Аляксандра Лукашэнкі, які калісьці сказаў, што хоча такім чынам пакінуць пасля сябе «помнік».

Самая складаная сітуацыя з камплектаваннем бібліятэчных фондаў у правінцыі. Што да кніг, то для сельскіх і раённых бібліятэк набываюць усяго толькі некалькі працэнтаў ад таго, што выдаецца за год у краіне. Тое самае з перыёдыкай. Як паведаміў галоўны і адзіны спецыяліст у бібліятэчнай справе міністэрства культуры Уладзімір Шышкін, на год у сельскія бібліятэкі цяпер выпісваецца толькі 2-3 найменні часопісаў, 5 найменняў газет, блізу 30 новых кніг. А бібліятэка для сельскага жыхарства часцяком ці не адзіная культурніцкая ўстанова, дзе вяскоўцы могуць чэрпаць інфармацыю і самаадукоўвацца. Для раённых бібліятэк набываецца прыкладна палова кніжкі на аднаго чытача. Нават «Нацыяналка», галоўная бібліятэка краіны, мае праблемы з перыядычнымі выданнямі. Сюды мусіць трапляць прынамсі па адным («кантрольным») асобніку ўсіх газет і часопісаў, што выходзяць у свет у нашай краіне. Але Нацыянальная бібліятэка атрымоўвала ўсяго 40% ад неабходнага. Прадугледжана, што на папаўненне фондаў і падпіску на перыёдыку ўсе бібліятэкі павінны выдаткоўваць не меней як 15% ад агульнай сумы фінансавання. Зараз у сярэднім гэты паказчык па краіне складае 10–11%. 3 газетнай бібліятэчнай падпіскай больш за ўсё шанцуе, натуральна, дзяржаўнай прэсе. Да нас у рэдакцыю досыць часта тэлефануюць людзі, у тым ліку са сталіцы, дзе бібліятэкі маюцца лепш, чым у рэгіёнах, і скардзяцца, што там няма НАШАЙ СВАБОДЫ. Але прычына тут збольшага ўсё ж не ва ўціску незалежных СМІ, а ў беднасці нашых бібліятэк.

Нягледзячы на недастатковую падпіску на газеты і непаўнавартаснае абнаўленне кніжных фондаў, якія ўвесь час скарачаюцца, бо іх даводзіцца ачышчаць ад састарэлай і незапатрабаванай літаратуры, колькасць чытачоў у беларускіх бібліятэках увесь час павялічваецца. Як кажа Уладзімір Шышкін, галоўная прычына ў тым, што «наш народ небагаты, выпісваць газеты многім цяжка». І кнігі купляць, відаць, таксама. Хоць насамрэч усяго, што хацеў бы набыць, і так не накупіцца. Дзеля гэтага якраз і існуюць бібліятэкі. І тое, што народ наш туды ходзіць, – дужа файна. Найбольш у бібліятэкі ўчашчае моладзь, вучнёўства і студэнцтва, якое складае ад усіх наведнікаў нашых бібліятэк аж 70%. Пенсіянераў – 10%. Усяго ж, па звестках міністэрства культуры, болей за трацiну беларусаў – 42% – ходзяць у бібліятэкі.

Бібліятэкары спадзяюцца, што за Леанідам Гулякам, а міністр мае якраз бібліятэкарскую адукацыю, становішча з фінансаваннем бібліятэк зменіцца. Павольна, але ўкараняюцца праграмы доступу да інтэрнэту – звышбібліятэкі, якая папаўняецца неверагоднымі тэмпамі. Ад прагрэсу нікуды не дзенешся, ды ўсё адно шамацення, паху і аўры кніжных старонак «мёртвыя» *web*-старонкі не заменяць. Адмысловы праект, які ажыццяўляецца з дапамогай пасольства ЗША, прадугледжвае стварэнне інтэрнэт-класаў ва ўсіх абласных бібліятэках. Нядаўна такі клас з'явіўся ў Віцебску, а ў хуткім часе будзе арганізаваны ў Гродне.

Трэба меркаваць, у камп'утарызаваных асучасненых бібліятэках беларусы стануць бавіць час яшчэ з большай ахвотай.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**


Фота Ул. ШЛАПАКА

# Небяспечныя маршруты «мірнага атаму»

## *У Беларусі затрыманы гандляры уранам*

*У сусветнай ядзернай супольнасці ўзнік новы скандал.*

Мяркуючы паводле паведамленняў украінскіх і беларускіх СМІ, у гэтых краінах можа знайсціся канал збыту незаконна здабытых падзельных матэрыялаў, якія тэарэтычна могуць выкарыстоўвацца для вырабу выбуховага прыстасавання з ядзерным боезарадам.

Калі гэтыя звесткі акажуцца праўдзівымі, заходнія краіны атрымаюць лішнюю падставу абвінавачваць Расію і другія краіны СНД у недастатковым кантролі за сваімі ядзернымі матэрыяламі. У выніку гэта можа зрабіць больш жорсткай пазіцыю Захаду ў дачыненні да аб'ектаў ядзернай энергетыкі на тэрыторыі былога СССР. На закрыцці многіх такіх аб'ектаў Захад настойвае ўжо не першы год.

Пачатак скандалу паклала афіцыйнае паведамленне адміністрацыі Чарнобыльскай АЭС пра нечарговую інвентарызацыю «свежага» і адпрацаванага ядзернага паліва. Намеснік начальніка інфармацыйнага аддзелу ЧАЭС Станіслаў Шасцела заявіў у інтэрв'ю агенцтву *Associated Press*: «Кіраўніцтва Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі мусіла правесці праверку захаванасці ядзернага паліва, якое там выкарыстоўвацца, у сувязі са знаходкаю кантрабанднага урану ў суседняй Беларусі».

Гаворка ідзе пра затрыманне супрацоўнікамі Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці шасцёх злачынцаў, якія мелі намер збыць вялікую партыю урану – 1,5 кг. Згодна з афіцыйным паведамленнем Цэнтру інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі, пасля атрымання аператыўнай інфармацыі пра гэтых людзей у кантакт з імі (пад выглядам іншаземца, які жадае набыць радыеактыўныя матэрыялы) увайшоў супрацоўнік спецслужбы. Ён і абмяркоўваў умовы здзелкі: агульны кошт «тавару» быў ацэнены ў 250 тыс. даляраў.

Супрацоўнікі КДБ правялі кантрольную закупку 261 г рэчыва ў якасці ўзору, і даследаванне пацвердзіла наяўнасць у цыліндрычнай трубцы урану-235 і урану-238. Згодна з папярэднім заключэннем спецыялістаў, цыліндр, як мяркуецца, служыў часткаю цеплавыдзяляльнага элемента рэактару тыпу РБМК. Пасля гэтага быў затрыманы адзін з прадаўцоў, у якога забраны яшчэ чатыры аналагічныя уранавыя стрыжні, а потым – яшчэ пяцёра ўдзельнікаў групоўкі.

Нягледзячы на высновы экспертызы пра тое, што забраныя ў Мінску уранавыя трубкі – частка рэактара РБМК (таго ж тыпу, які выкарыстоўваецца на ЧАЭС), на думку Станіслава Шасцелы, да правядзення дадатковай экспертызы нельга сцвярджаць, што яны былі скрадзены якраз з іхняе станцыі: рэактары такога ўзору працавалі і на іншых АЭС СССР.

Украінскія эксперты лічаць, што трубкі не маглі быць скрадзеныя з Чарнобыльскай атамнай станцыі, прынамсі, у апошнія некалькі гадоў. Матывуюць яны гэта тым, што на атамнай станцыі, акрамя аховы памяшканняў, якая здзяйсняецца супрацоўнікамі Чарнобыльскай АЭС, ёсць кантроль з боку МАГАТЭ, якая ўжо некалькі разоў сочыць за бяспекаю станцыі шляхам відэаздымак. Зрэшты, як расказаў Станіслаў Шасцела, у 1993 годзе з Чарнобыльскай атамнай станцыі было скрадзена ядзернае паліва – цырконіевыя трубкі з двухвокісам урану. Тады па факце прапажы ядзерных матэрыялаў была ўзбуджана крымінальная справа, але ні ядзернага паліва, ні тых, хто яго скраў, знайсці не ўдалося. Таму на Чарнобыльскай атамнай станцыі не выключаюць, што ў Мінску з'явіўся уран, скрадзены яшчэ на пачатку 1990-х гг.

Аднак спецыялісты ЧАЭС разглядаюць гэта толькі як адну з версій. Расійскія ж эксперты лічаць, што гаворка ідзе хутчэй пра трымальнікі гамма-крыніц. «Гэта стрыжні, выробленыя са сплаву з ужываннем збедненага урану, у якія потым запрэсоўваецца гама-крыніца, звычайна кобальтавая. Такія вырабы прадаюцца цалкам афіцыйна і каштуюць 25 даляраў за кілаграм, — заявіў карэспандэнту «НГ» адзін з расійскіх спецыялістаў-атамшчыкаў. – Але калі беларускія эксперты памыліліся і гаворка ідзе пра абагачаны уран, паўтара кілаграмаў хопіць на «*изделие*» (так расійскія атамшчыкі называюць ядзерныя боеприпасы)».

Зрэшты, нават калі гаворка ідзе толькі пра уранавы трымальнік, ЧП у Беларусі можа стаць чарговай нагодай, каб абвінавачваць краіны – сябры СНД у недастатковым кантролі за сваімі падзельнымі матэрыяламі. Удзельнікі антыталібскай кааліцыі не раз казалі пра імкненне бін Ладэна атрымаць у сваё распараджэнне ядзерныя боеприпасы і празрыста давалі зразумець, дзе менавіта «тэрарыст №1» можа атрымаць матэрыялы для «*изделия*».

**Анатоль НЯЗВАНАЎ**
**Мінск**
**Ng.ru**

# Новы скандал на «Беларусьфільме»

Працягваюцца скандалы вакол маладога беларускага кінарэжысёра Руслана Зголіча.

Вечарам 23 студзеня Зголіч з'явіўся на кінастудыі «Беларусьфільм» і заявіў пра намер прысутнічаць на мастацкім савеце. Аднак кіраўнікі кінастудыі і некаторыя ўдзельнікі паседжання, для якіх Зголіч раней не шкадаваў розных абвінавачанняў, запярэчылі. Тым не менш, ён вырашыў застацца, паколькі, паводле яго словаў, «ніколі такога не было, каб рэжысёра вытурылі з мастацкага савету». Узнік канфлікт, які перарос у бойку. У выніку рэжысёра затрымала міліцыя. Ва УУС Першамайскага раёну, паводле словаў Зголіча, ён быў моцна збіты за тое, што адмовіўся падпісваць пратакол аб правапарушэнні. З міліцыі ён быў дастаўлены ў адну з бальніц, дзе зараз праходзіць курс лячэння. Паводле словаў Зголіча, яму дыягнаставалі лёгкую чэрапна-мазгавую траўму.

Як раней паведамляў БелаПАН, на кінастудыі «Беларусьфільм» Руслан Зголіч здымаў поўнаметражны фільм «Госці» (цяпер ён называецца «Эскіз на маніторы»). З-за творчага і тэхнічнага канфлікту з кіраўніцтвам кінастудыі (Зголіч патрабаваў правесці дадатковыя здымкі) на апошнім этапе рэжысёра адхілілі ад працы, і карціну мантаваў другі чалавек. Актыўныя пратэсты Зголіча, якія праходзілі часам у экстравагантнай форме, прывялі да таго, што яго абвінавацілі ў крадзяжы ў асабліва буйных памерах (ён нібыта выкраў копію свайго ж фільму) і хуліганстве (падчас адной са спроб праўраваць на кінастудыю і ў свой працоўны кабінет ён выбіў шкло). У дачыненні да Зголіча ў снежні 2001 году была ўзбуджана крымінальная справа. Па пастанове следчага рэжысёр прайшоў псіхіятрычную экспертызу, якая выявіла ў яго часовае душэўнае расстройства, якое патрабуе лячэння ў стацыянары.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Спосаб задушэння іншадумства

Праблемы прызначэння псіхіятрычных экспертыз у рамках Крымінальна-працэсуальнага кодэксу і псіхіятрычнага агляду разгледжаны 25 студзеня на чарговым паседжанні «Клубу адвакатаў» у мінскім офісе грамадскай арганізацыі «Цэнтр па правах чалавека».

На думку кіраўніка «Цэнтру па правах чалавека» і «Клубу адвакатаў» Веры Страмкоўскай, заяўленая тэма зноў робіцца актуальнай: «У савецкія часы іншадумства падаўлялася рознымі спосабамі, у тым ліку змяшчэннем грамадзян у псіхіятрычныя клінікі. Сёння ёсць небяспека, што ўлады ў Беларусі могуць вярнуцца да такога спосабу задушэння іншадумства».

Вера Страмкоўская расказала пра барацьбу за свайго падабароннага Аляксандра Караваева, які змешчаны ў Рэспубліканскую псіхіятрычную клініку пасля збівання ў Жодзінскім следчым ізалятары. Вызваліць Караваева ад прымусовых мер медыцынскага характару ўдалося толькі пасля ўмяшання былога кіраўніка Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ Ханса-Георга Віка.

Была заслухана інфармацыя аб справе рэжысёра Руслана Зголіча, які быў накіраваны на судова-медыцынскую экспертызу на пачатку студзеня 2002 году, і аб некаторых іншых справах.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Мытню «пачысціць» КДБ

Кіраўніцтва Дзяржаўнага мытнага камітэту (ДМК) Беларусі збіраецца ўзмацняць падраздзяленні ўласнай бяспекі з прыцягненнем супрацоўнікаў КДБ і МУС з мэтай барацьбы «за чысціню кадраў» мытных органаў. Пра гэта 24 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў старшыня ДМК Аляксандр Шпілеўскі. «Я не бачу праблем, калі мытнае правапарушэнне або крымінальнае злачынства, учыненае работнікам мытні, будзе выяўлена КДБ, МУС ці пагранічнікамі», – падкрэсліў ён.

Паводле слоў кіраўніка Дзяржмытні, у 2001 годзе ў Беларусі за службовыя злачынствы ўзбудзілі 24 крымінальныя справы ў дачыненні да 30 мытнікаў. Пры гэтым 17 крымінальных спраў узбуджаны па матэрыялах уласнай службы бяспекі.

У 2001 годзе ў судах разгледзелі пяць крымінальных спраў па службовых злачынствах мытнікаў, па якіх асуджаныя 8 чалавек. Гэта меней, чым у 2000 годзе, калі ў судах разглядалі 14 крымінальных спраў і асудзілі 15 чалавек.

**Аляксей АРЭШКА**

# У Беларусі знізілася раскрыццё злачынстваў

«На жаль, пры скарачэнні колькасці зарэгістраваных злачынстваў іх раскрыццё таксама знізілася». Такую заяву зрабіў першы намеснік міністра ўнутраных спраў Беларусі — начальнік крымінальнай міліцыі Барыс Тарлецкі 25 студзеня на калегіі МУС у Мінску.

Паводле яго словаў, паўсюдна пагоршылася раскрыццё цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку. Самае нізкае раскрыццё ўсіх відаў злачынстваў — у Віцебскай і Гомельскай абласцях, дзе яно «не перавышае 49 працэнтаў». У Мінску яно склала 55,3 працэнта. Толькі ў Гродзенскай і Мінскай абласцях (за выключэннем Барысава) гэтыя паказчыкі вышэйшыя. Як заявіў Тарлецкі, у сувязі з нізкай раскрывальнасцю злачынстваў «на асаблівым кантролі МУС 24 беларускія гарады з колькасцю насельніцтва кожнага больш за 50 тыс. чалавек». «Сіл і сродкаў хапае, а кіраванне нізкае», — адзначыў Тарлецкі. Як вынік — «раскрыццё па гарачых слядах у цэлым па рэспубліцы знізілася на 6 працэнтаў».

Кіраўніцтва МУС хвалюе таксама аб'ектыўнасць сродкаў, што выдаткоўваюцца для правядзення агентурных аперацый. «Сёння мы адмовіліся ад ганебнай практыкі планавання агентурна-аператыўнай працы зверху, калі стаўка рабілася на наўхільнае нарошчванне апарату сакрэтнай працы на шкоду яе якасці», — сказаў Тарлецкі.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Барацьба за грэцкую спадчыну

*Апошнім часам з новай сілай разгараецца спрэчка паміж Вялікабрытаніяй і Грэцыяй за так званы Эльгінскі мармур – фрагменты фрызаў, створаныя майстрамі пад кіраўніцтвам найвялікшага скульптара старажытнай Грэцыі Фідыя. Некалі яны ўпрыгожвалі старадаўні Парфенон. Іх вывез з Афін у Лондан на мяжы XVIII і XIX стст. тагачасны брытанскі пасол у Канстанцінопалі, лорд Томас Эльгін.*



Вось ужо больш за 180 гадоў Грэцыя дарма спрабуе вярнуць сабе гэтыя фрызы, якія захоўваюцца ў Брытанскім музеі. І толькі цяпер з'яўляюцца шанцы на станоўчы зыход спрэчкі. Яны звязаныя з Алімпіядай 2004 году, якая пройдзе ў Афінах. Грэкі збіраюцца пабудаваць ля падножжа Акропалю адмысловы музей, у якім будзе пакінута месца для экспазіцыі Эльгінскага мармуру. У сувязі з гэтым распачалася новая кампанія за яго вяртанне. На баку Грэцыі выступаюць не толькі кіраўнічыя органы ЕС, які выдзеліў некалькі дзесяткаў мільёнаў еўра на будаўніцтва гэтага музею. За рэстытуцыю выказваюцца і многія вядомыя брытанскія палітыкі. Апытанні грамадскае думкі, праведзеныя ў апошнія гады, паказваюць, што ў брытанскім грамадстве існуе масавая падтрымка ідэі вяртання фрызаў. Аднак кіраўніцтва Брытанскага музею цвердзіць, што «*грэкі не маюць магчымасці стварыць належныя ўмовы для захавання скульптураў*».

Хутчэй за ўсё, фрызы перададуць на часовае карыстанне, бо лічыцца, што вяртанне або дар можа абразіць нацыянальную годнасць брытанцаў. Гэтую прапанову ўхваляе міністр культуры Грэцыі Эвангелас Веніселас, які падкрэсліў нядаўна, што «*згодзен з магчымасцю перадачы фрызаў Грэцыі на доўгі час, бо важна аднавіць цэласнасць комплексу Акропалю*».

Адзін з галоўных аргументаў Брытанскага музею палягае ў тым, што апошні набыў фрызы «на законных падставах». Лорд Эльгін вывозіў фрызы з намерам папоўніць сваю прыватную калекцыю твораў мастацтва. Аднак ён залез у такія пазыкі, што мусіў прапанаваць брытанскаму ўраду выкупіць у яго скульптуры. У 1816 годзе ён прадаў іх за 35 тысяч фунтаў стэрлінгаў, а праз год яны занялі сваё месца ў экспазіцыі музею.

Цяпер жа сам музей знаходзіцца ў падобным становішчы. Хоць з усіх музеяў Вялікабрытаніі ён найбольш папулярны (4,6 мільёна наведнікаў у 2001 годзе), ён не можа звесці канцы з канцамі. Па звестках галоўнага бухгалтара музею Крыстафера Джонса, дэфіцыт музейнага бюджэту складае 5 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Каб паправіць становішча, музей абвясціў пра замарожванне пабудовы даследчага цэнтру, які яму вельмі патрэбны. Акрамя таго, не выключана, што будзе распрададзена частка экспазіцыі і запаснікаў. На гэтым музей спадзяецца выручыць больш як 30 млн. фунтаў стэрлінгаў. Невядома, праўда, на колькі музею хопіць гэтых грошай. Затое грэкі могуць глядзець у будучыню з аптымізмам.

**Анна ВІСЭНС, Vesti.ru**

# Канец дзяржаўнай здрады

**Джордж П. ФЛЕТЧЭР, прафесар юрыспрудэнцыі Калумбійскага універсітэту**

*Перафразуючы славутае выказванне Талстога, людзі, адданыя сваёй краіне, адданыя ёй аднолькава. Яны ваююць у войску, плацяць падаткі і галасуюць на выбарах. А вось здраднікам кожны робіцца па-свойму.*

Возьмем пасляваенны досвед Амерыкі і Нямеччыны. У ЗША працэсаў па абвінавачанні ў дзяржаўнай здрадзе не было з часоў Другой сусветнай вайны, а Нямеччына скасавала само паняцце здрады ў традыцыйным сэнсе гэтага слова, пакінуўшы дзеля абароны ўраду ад перавароту з боку антыдэмакратычных сілаў толькі паняцце падбухторвання да мяцяжу як агульнакрымінальнага злачынства.

А цяпер зірнем на посткамуністычныя краіны, дзе коціцца новая хваля судовых працэсаў па абвінавачанні ў дзяржаўнай здрадзе. Судовы пераслед двух 78-гадовых старых у Чэшскай Рэспубліцы (Мілаша Якеша і Ёзафа Ленарта) – абодва яны прычыніліся да савецкай акупацыі Чэхаславаччыны ў 1968 годзе, – а таксама чатырохгадовы судовы працэс ува Уладзівастоку над Грыгорыем Пасько, расійскім афіцэрам ваеннамарскога флоту, – гэта, магчыма, першыя працэсы, у якіх пацярпелыя краіны, што адчулі факты здрады, рэагуюць абвінавачаннямі ў дзяржаўнай здрадзе.

Чаму паняцце здрады адмірае ў адных краінах і адраджаецца ў другіх? Англа-амерыканская версія паняцця здрады, як першапачаткова вызначыў англійскі парламент у XIV стагоддзі, уключала ў сябе поўны дыяпазон дзеянняў, якія пагражалі каралеўскай уладзе. Нават думкі пра забойства караля караліся смерцю. Кара за такія дзеянні, як замена каралевы падстаўной асобай або згвалтаванне каралевы (сапсаванне каралеўскай лініі крыві), была ўнесена ў англійскія законы дзеля таго, каб гарантаваць захаванасць каралеўскай дынастыі і дому.

Асноўным абвінавачаннем у здрадзе быў пачатак вайны супраць караля, але маштаб злачынства абмяжоўваўся адной акалічнасцю. Дзеля таго, каб быць здраднікам, трэба спачатку мець абавязак быць адданым. Француз не мае такога абавязку ў дачыненні да англійскай кароны. Яго маюць толькі англічане. Такім чынам, адно з патрабаванняў, паводле якога могуць абвінаваціць у здрадзе, практычна паўсюль зводзіцца да таго, што толькі грамадзяне або тыя, хто стала жыве на тэрыторыі краіны, могуць учыніць здраду.

Амерыканцы, што падпісалі Дэкларацыю Незалежнасці, будучы грамадзянамі Брытаніі, усе былі вінаватыя ў здрадзе, бо пачалі вайну супраць караля Георга III. Зразумела, пасля таго як яны заваявалі незалежнасць і пазбеглі судовага працэсу, яны скасавалі азначэнне здрады, якое прыйшло з XIV стагоддзя. Іх уяўленні пра здраду запісаныя ў амерыканскай канстытуцыі, у якой злачынствы такога кшталту абмежаваныя ўчынкамі, якія прыводзяць да вайны, і вядомай фразай, узятай з закону XIV стагоддзя: «далучацца да ворага, дапамагаць яму і падтрымліваць яго».

Як відаць, такое шырокае азначэнне можа ахопліваць практычна любую праяву сімпатыі што да замежнай улады, але амерыканцы не любяць дамагацца ўзбуджэння крымінальных справаў па прынцыпе «хапай усіх». Пра гэта сведчаць спрэчкі пра тое, варта ці не ўзбуджаць судовы працэс супраць Джона Уокера, жыхара Каліфорніі, які ваяваў у Афганістане на баку Талібану. Ён, бясспрэчна, спрыяў ворагу нашмат больш, чым проста «дапамогай і падтрымкаю». Але амерыканцы, здаецца, не вельмі схільныя навешваць яму кляймо здрадніка.

Слабыя дзяржавы хутчэй выкрываюць акты здрады. Саветы, з іх нетрывалай легітымнасцю, заўсёды баяліся здрады. Яны называлі гэтае злачынства здрадаю Радзіме – і ўжывалі высокамаральную рыторыку ў дачыненні да дробных парушэнняў, такіх, як нелегальны выезд з краіны. Калі ў 1970 годзе група габрэяў-дысідэнтаў змовілася сагнаць самалёт, іх абвінавацілі ў спробе здрады. Дваіх арганізатараў прысудзілі да смяротнага пакарання. Калі Анатоль Шчаранскі, як бяздоказна сцвярджалася, перадаў звязаны з дзяржаўнаю таямніцай матэрыял замежнаму журналісту, яго абвінавацілі ў здрадзе.

Справа Шчаранскага дапамагае нам зразумець нядаўнюю гісторыю Грыгорыя Пасько, асуджанага пасля чатырохгадовага судовага працэсу за тое, што ён нібыта перадаў інфармацыю для тэлерэпартажу на японскім тэлебачанні пра тое, як расійская армія скідае ядзерныя адкіды ў мора.

У Чэшскай Рэспубліцы – другая гісторыя. Якеш і Ленарт, магчыма, былі на баку расейскага ворага ў 1968 годзе, але не зусім ясна, якая карысць дзяржаве ад збіцця нежывога рэжыму яшчэ адным судовым працэсам.

Нямецкі досвед што да здрады повен парадоксаў. Калі вы вывучыце закон, які дзейнічае сёння, вы ўбачыце, што ў яўным выглядзе патрабаванне грамадзянства там адсутнічае. Кожны чалавек, іншаземец або немец, можа ўчыніць *Hochverrat* (дзяржаўную здраду), ужываючы сілу альбо пагрозу ўжывання сілы, каб падарваць асноўны закон – нямецкую канстытуцыю.

Існуе думка, што немцы пасля вайны, адчуваючы непрыязь да нацыяналізму нацысцкага перыяду, скасавалі неабходнасць нацыянальнай вернасці. Але насамрэч усё інакш. Гітлер змяніў закон у 1934 годзе, будучы пад уздзеяннем маніі велічы, якая палягала ў тым, што ўвесь свет павінен быць яму верным. Пазней, падставіўшы *асноўны закон* замест *фюрэра* ў пасляваенную папраўку да закону аб злачынстве, сучасныя немцы ў выніку анулявалі здраду як злачынства.

Хутчэй за ўсё, пераможа нямецкая мадэль, і мы будзем абавязаны шанаваць не лідэра або Айчыну, а агул дэмакратычных інстытутаў.

**© Project Syndicate, студзень 2002**

## Заклік да байкоту конкурсу

Рэдакцыя газеты *Московские новости* заклікае ўсіх тэлежурналістаў байкатаваць абвешчаны расійскім міністэрствам друку конкурс на частату вяшчання шостага метровага каналу. Пра гэта ў эфіры радыёстанцыі «Эхо Москвы» заявіла намесніца галоўнага рэдактара газеты Людміла Целень.

Яна падкрэсліла, што супрацоўнікі МН лічаць конкурс «амаральным мерапрыемствам, якое ляжыць па-за рамкамі прававога поля».

Па яе словах, цяпер «адбываецца несправядлівае, неправавое дзейства ў дачыненні да высокапрафесійнага калектыву тэлеканалу ТВ-6, і ў гэтай сітуацыі карпаратыўная салідарнасць павінна адыграць сваю ролю. Тое, што мы не праявілі яе ў поўнай меры – вялікая бяда журналісцкае супольнасці».

Тым часам міністэрства друку ўжо пачало прыём заявак на конкурс за права вяшчання на шостай кнопцы. Пра намер удзельнічаць у ім абвясцілі пакуль ТАА «ТВ-6», заснаванае камандай Яўгенія Кісялёва, а таксама група асобаў на чале з гендырэктарам тэлекампаніі ВКТ Міхаілам Панамаровым.

## Талібаў назавуць ваеннапалоннымі

Дзяржсакратар ЗША Колін Паўэл лічыць, што палонныя талібы і баевікі «Аль-Каеды» павінны класіфікавацца як ваеннапалонныя, паведамляе *The Washington Times*.

Да гэтага часу адміністрацыя амерыканскага прэзідэнта разглядала афганскіх палонных як удзельнікаў «незаконных узброеных фармаванняў», на якія дзеянне Жэнеўскай канвенцыі аб адносінах да ваеннапалонных не распаўсюджваецца. Паўэл лічыць, што Жэнеўская канвенцыя павінна распаўсюджвацца як на талібаў, так і на баевікоў «Аль-Каеды».

Дарадца прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы Кандаліза Райс папрасіла чальцоў Рады нацыянальнай бяспекі паведаміць сваю думку пра тое, ці трэба лічыць палонных, захопленых у часе антытэрарыстычнай кампаніі ў Афганістане, ваеннапалоннымі. Старшыня Рады Шон Мак-Кормік сказаў: «Мы спрабуем знайсці рашэнне гэтага складанага пытання. Мы сутыкнуліся з новым тыпам вайны, цяжка вырашыць, ці могуць прымяняцца існуючыя міжнародныя нормы да новага тыпу ваеннага канфлікту».

Як правіла, Дзярждэпартамент ЗША выступае за стасаванне нормаў Жэнеўскай канвенцыі да зняволеных, спадзеючыся, што гэта забяспечыць належныя адносіны да амерыканцаў, якія ўтрымліваюцца ў іншых краінах.

Віцэ-прэзідэнт Дзік Чэйні сказаў у пятніцу, што зняволеныя талібы «надта кепскія людзі, якія не могуць лічыцца ваеннапалоннымі згодна з Жэнеўскай канвенцыяй».

## Чарговы тэракт у Іерусаліме

У нядзелю каля 12.20 па блізкаўсходнім часе ў цэнтры Іерусаліму прагрымеў моцны выбух, паведамляе *CNN*. Тэрарыст-камікадзэ падарваў сябе на скрыжаванні вуліц Яффа і Караля Георга, якраз на тым самым месцы, дзе быў здзейснены тэракт 22 студзеня, які забраў 15 жыццяў.

Па апошніх звестках, ад выбуху пацярпелі 95 чалавек. Стан некаторых параненых ацэньваецца як цяжкі. Тэрарыст загінуў. Сярод пацярпелых ёсць паліцэйскія, якія ахоўвалі скрыжаванне – «самае папулярнае» апошнім часам месца тэрактаў. На месца здарэння прыбываюць шматлікія машыны хуткай дапамогі і сілы бяспекі. Цэнтр Іерусаліму закрылі для аўтатранспарту. Параненых развезлі па шпіталях «Шаарэй Цэдэк», «Адаса Эйн-Карэм» і «Адаса Ар А-Цафім».

Урад Ізраілю ўсклаў адказнасць за сённяшні тэракт асабіста на кіраўніка Палесцінскай нацыянальнай адміністрацыі Ясіра Арафата. У той жа час сам Арафат асудзіў гэты акт гвалту.

У мінулы аўторак за 20 метраў адгэтуль таксама адбыўся тэракт. Палесцінец, які страляў з аўтаматычнай зброі, забіў тады дзвюх жанчын і параніў яшчэ 10 мінакоў.




## Антарктыда будзе праваслаўнай

Група святароў РПЦ, у тым ліку настаяцель будучага храму св. Мікалая ў Антарктыдзе айцец Георгій (Ільін), выправілася на цырымонію асвячэння месца гэтага храму.

Цяпер група знаходзіцца ў чылійскім горадзе Пунта-Арэнас – самым паўднёвым горадзе свету, бо ў сувязі з умовамі надвор'я не можа дабрацца да месца прызначэння – вострава Кінг-Джордж, дзе месціцца расійская антарктычная станцыя «Белінсгаўзен» і дзе будзе ўзводзіцца праваслаўны храм. Храм будзе пабудаваны з лістоўніцы, нарыхтаванай у Алтайскім краі. Першы праваслаўны храм у Антарктыдзе будуецца па дабраславенні Патрыярха Алексія II, які ўхваліў і праект храму, падрыхтаваны архітэктарам П.Анісіфоравым. Настаяцелем будучага храму прызначаны ігумен манастыра Фёдараўскай іконы Маці Божае ў горадзе Шуі Іванаўскай вобласці.

**«Мир религий»**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Згвалчаныя мільёны немак — міф ці праўда пра 1945 год?

*Як сцвярджае ў сваёй новай кнізе ваенны гісторык Энтані Бівар, оргія гвалтаванняў з боку Чырвонай Арміі ў дні агоніі нацысцкай Германіі мела значна большыя маштабы, чым меркавалі раней. Бівар, аўтар бестселера «Сталінград», кажа, што савецкія войскі згвалцілі, апроч мільёнаў немак, таксама і вялікую колькасць рускіх і польскіх жанчын, якія былі вязнямі канцэнтрацыйных лагераў. Такі размах недысцыплінаванасці і разбэшчанасці вайскоўцаў Чырвонай Арміі выявіўся, калі аўтар вывучаў савецкія архівы для напісання сваёй кнігі «Берлін», якую апублікуе ў красавіку гэтага году выдавецтва* Viking.

### Ад рэдакцыі

Гэты артыкул англійская газета надрукавала, каб пазнаёміць свайго чытача з новым даследаваннем гісторыка Э.Бівара, прысвечаным узяццю Берліна ў 1945 годзе савецкімі войскамі. Разглядаючы ваенны бок аперацыі і яе наступствы, аўтар закрануў некаторыя істотныя маральна-псіхалагічныя аспекты — найперш маштабы гвалтавання нямецкіх жанчын салдатамі Чырвонай Арміі. Згодна з даследаваннем, у пасляваенны час у савецкай зоне акупацыі Германіі незгвалчаныя пераможцамі жанчыны былі хутчэй выключэннем, чым правілам. Трэба заўважыць, што артыкул, з пэўных меркаванняў, не закранае гвалтаванняў немак амерыканскімі, французскімі, англійскімі ды польскімі салдатамі, якія таксама ваявалі на тэрыторыі Германіі, а гэта робіць карціну няпоўнай і асветленай суб'ектыўна.

За ўсю гісторыю не было яшчэ вайны, якая б не адзначалася шматлікімі актамі лютасці, марадзёрства і гвалтавання жанчын. Так бывае і цяпер усюды, дзе вядуцца баявыя дзеянні. Так было і ў гады Другой сусветнай вайны. Але ўявіць у якасці гвалтаўнікоў большасць тагачаснага савецкага войска, сваіх дзядоў і бацькоў, ды пагадзіцца з такой інтэрпрэтацыяй іхняга псіхічнага ладу цяжка. Усё ж з 1941 па 1945 год у Савецкую Армію было мабілізавана 1,5 мільёна беларусаў. Шмат хто з іх ваяваў і на берлінскім напрамку.

Таму, знаёмячы з гэтым артыкулам нашага чытача, мы спадзяемся, што жывыя сведкі ваенных падзеяў 1944-1945 гадоў на тэрыторыі Германіі, якія бралі ўдзел у разгроме трэцяга рэйху, падзеляцца сваімі асабістымі ўспамінамі адносна ўзнятай у артыкуле тэмы. Мы надрукуем усе водгукі былых вайскоўцаў незалежна ад таго, паслужаць яны гонару нашых салдат ці не.

**ЧАЛАВЕЧЫЯ СТРАТЫ НЕКАТОРЫХ КРАІНАЎ У ЧАСЕ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ *(ЗГОДНА З ЗАХОДНЯЙ СТАТЫСТЫКАЙ)***

| Краіна | Вайскоўцы | Цывільныя |
|---|---|---|
| СССР | 13.600.000 | 9.000.000 |
| у тым ліку Беларусь | 1.000.000 | 1.500.000 |
| Германія | 4.750.000 | 500.000 |
| Польшча | 320.000 | 5.700.000 |
| Югаславія | 410.000 | 1.280.000 |
| Італія | 330.000 | 85.000 |
| Францыя | 340.000 | 470.000 |
| Вялікабрытанія | 324.000 | 62.000 |
| ЗША | 259.000 | – |
| Венгрыя | 140.000 | 280.000 |

Энтані Бівар, які атрымаў адукацыю ў ваеннай вучэльні ў Мандхерсце і служыў у элітным 11-ым гусарскім палку прынца Альберта, заяўляе, што дэталёвыя звесткі аб паводзінах савецкіх салдат вымусілі яго нават перагледзець свае погляды на прыроду чалавека. «Калі даўней я з лёгкай ироніяй успрымаў ідэю аб тым, што бальшыня мужчын – патэнцыйныя гвалтаўнікі, дык цяпер мусіў прыйсці да высновы, што пры адсутнасці жорсткай дысцыпліны ў войску мужчына са зброяй, разлютаваны пасля двух ці трох гадоў вайны, сапраўды робіцца патэнцыйным гвалтаўніком», — заявіў ён выдаўцу сваёй кнігі.

Як прызнаецца Энтані Бівар, ён быў моцна ўзрушаны адкрыццём, што рускіх і польскіх жанчын і дзяўчат, якіх вызвалялі з канцэнтрацыйных лагераў, гвалтавалі таксама. «Гэта істотна пахіснула маё ўяўленне, што салдаты скарыстоўвалі гвалт як форму помсты немцам», — патлумачыў ён.

«На той час на тэрыторыі Германіі рускія салдаты ставіліся да жанчын амаль як да «жывога трафею» — яны лічылі, што паколькі яны вызваляюць Еўропу, то могуць паводзіць сябе, як ім захочацца. Гэта вельмі трывожна, бо пачынаеш усведамляць, што цывілізацыя – рэч жахліва паверхоўная, і яе фасад можа абляцець вельмі хутка».

Высокая рэпутацыя Э.Бівара як гісторыка гарантуе, што яго сцверджанні ўспрымуць усур'ёз. Кніга «Сталінград» атрымала высокую ацэнку і заслужыла некалькі прэстыжных прэмій па гісторыі. Аднак яго аповед пра аблогу і ўзяцце Берліна павінен выклікаць больш спрэчак. «Шмат у якіх адносінах, — піша ён, — лёс жанчын і дзяўчат у Берліне быў горшы, чым лёс салдат, якія галадалі і пакутавалі ў Сталінградзе».

Каб зразумець, чаму гвалтаванне ў Германіі было унікальна жахлівым, неабходна звярнуцца да кантэксту. Аперацыя «Барбароса», нацысцкі напад на СССР у 1941 годзе, стала пачаткам самага крывавага канфлікту ў сусветнай гісторыі. Сёння лічаць, што болей за 30 мільёнаў грамадзянаў Савецкага Саюзу загінулі ў гады вайны, з іх болей за 3 мільёны свядома замарылі голадам у нямецкіх канцлагерах для ваеннапалонных. Немцы не выказвалі да іх і да насельніцтва акупаваных земляў ніякай літасці, таму і не маглі чакаць літасці ў адказ. Але яны таксама панеслі немалыя людскія страты. У адной толькі бітве за Берлін загінулі або пазней памерлі ў палоне болей за мільён нямецкіх салдат і яшчэ сама менш 100 тысяч цывільных асобаў. Чырвоная Армія страціла пры штурме гораду болей за 300 тысяч салдат. Аднак варта зазначыць, што на 30 мільёнаў ахвяраў вайны з савецкага боку прыпала 7 мільёнаў забітых немцаў. Розніца істотная.

На жахлівым фоне разбурэнняў і стратаў, зазнаных акупаванымі рэгіёнамі СССР, Сталін і яго генералы апраўдвалі і нават ухвалялі гвалт, прычым не толькі ў адносінах да нямецкай нацыі, але таксама і да іхніх хаўруснікаў — Венгрыі, Румыніі і Харватыі. Калі югаслаўскі камуніст Мілаван Джылас заявіў пратэст Сталіну, дыктатар выбухнуў злосцю: «Як вы не можаце зразумець салдата, які прайшоў тысячы кіламетраў праз кроў, полымя і смерць і хоча пазабаўляцца з жанчынай ці ўзяць сабе якую-небудзь драбязу?» А калі нямецкія камуністы засцерагалі яго, што гвалтаванні адварочваюць ад іх насельніцтва, Сталін ускіпеў: «Я нікому не дазволю ўтаптаць у бруд высокую рэпутацыю Чырвонай Арміі!» Гвалтаванні пачаліся адразу, як толькі ў 1944 годзе Чырвоная Армія ўвайшла ва Усходнюю Прусію і Сілезію. Шмат у якіх гарадах і паселішчах была згвалчаная кожная жанчына ў веку ад 10 да 80 гадоў. Аляксандр Салжаніцын, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, у той час капітан артылерыі, перадаў гэты жах у сваёй паэме «Прускія ночы», напісанай белым вершам: *«Маленькая девочка на матраце/ Мертва. Как много их перебывало на ней/ Взвод, а может и рота?»* Але такія, як Салжаніцын, былі хутчэй рэдкімі выключэннямі; яго таварышы, як правіла, лічылі згвалтаванне справай легітымнай. Калі савецкія войскі прасунуліся ўглыб Германіі, у загадзе маршала Жукава было пазначана: «Гора зямлі забойцаў. Мы адпомсцім за ўсё, і наша помста будзе страшная».

На час падыходу Чырвонай Арміі да Берліна яе рэпутацыя бязлітаснага мсціўцы, узмоцненая нацысцкай прапагандай, ужо запужала нямецкае насельніцтва, і мноства людзей ратавалася ўцёкамі. Хоць у траўні безнадзейны супраціў немцаў спыніўся, пакуты нямецкіх жанчын не скончыліся. Колькі ўсяго немак былі згвалчаныя? Можна толькі гадаць, але яны складаюць значны працэнт ад тых 15 мільёнаў жанчын, якія жылі ў савецкай зоне акупацыі ці былі выгнаныя з усходніх рэгіёнаў Германіі. Пра маштабы гвалтаванняў можна меркаваць па тым факце, што ў перыяд 1945–1948 гадоў штогод прыкладна 2 мільёны немак рабілі нелегальныя аборты. Толькі ўзімку 1946-47 гадоў савецкія ўлады, заклапочаныя распаўсюджваннем сярод сваіх вайскоўцаў венерычных захворванняў, увялі сур'ёзныя пакаранні для салдат ва Усходняй Германіі за гэткае братанне з ворагам.

Савецкія салдаты разглядалі гвалтаванне, якое часцяком здзяйснялі на вачах мужа і сям'і жанчыны, як належны чын абразы нямецкай нацыі, якая лічыла славянаў за ніжэйшую расу і забараняла з імі сексуальныя кантакты. Гвалтаванні прынялі такія маштабы і праз звыклае п'янства расійскіх салдатаў, але найважнейшым аказалася абурэнне пры сустрэчы з адносна высокім дабрабытам немцаў.

Падкрэслены Э.Біварам факт, што савецкія войскі гвалцілі не толькі нямецкіх жанчын, але таксама і ахвяраў нацызму, нядаўна вызваленых з канцэнтрацыйных лагераў, вымушае меркаваць, што сексуальны гвалт часцяком быў неразборлівы, хоць рускіх ці польскіх жанчын было згвалчана нашмат меней, калі вызвалялі іх родныя мясціны, чым заваяваных нямецкіх жанчын. Габрэйкі таксама неабавязкова разглядаліся савецкімі салдатамі як ахвяры нацыстаў. Савецкія камісары рэквізавалі нямецкія канцлагеры, каб змяшчаць там палітвязняў, сярод якіх былі і ўласныя «класавыя ворагі», а таксама нацысцкія чыноўнікі, ваеннапалонныя афіцэры, падазроныя асобы з цывільнага насельніцтва, і таму стаўленне да былых лагернікаў, мякка кажучы, не мела сентыментаў.

Што тычыцца мільёнаў савецкіх палонных ці забраных у Германію на прымусовую працу славянаў, якім удалося перажыць нацысцкі рэжым, дык тыя, каго не пакаралі смерцю як здраднікаў і не адправілі ў ГУЛАГ, маглі лічыць сябе шчасліўцамі. Да жанчын, якія былі сярод вязняў, ставіліся, відаць, не лепш, чым да немак, а можа нават і горш.

Гвалтаванне Германіі пакінула пасля сябе не лепшую спадчыну. Яно прычынілася да непапулярнасці камуністычнага рэжыму ва Усходняй Германіі. Самі ахвяры атрымалі цяжкую траўму: нямецкія жанчыны ваеннага пакалення ўсё яшчэ называюць вядомы ваенны мемарыял палеглых салдат Чырвонай Арміі ў Берліне «Магілай Невядомага Гвалтаўніка».

**Дэніел ДЖОНСАН**
**The Times**

# Індэкс рэпрэсаваных

Мінскае выдавецтва «Медысант» пачало выпуск серыі «Беларускі індэкс рэпрэсаваных». Першы том мае назву «Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920–1950-я гады ў Заходняй Сібіры». Аўтарам-складальнікам «Індэксу» выступіў вядомы даследчык праблематыкі сталінскіх рэпрэсіяў Ігар Кузняцоў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага дзяржуніверсітэту. Кніга прысвечана ўраджэнцам Беларусі, рэпрэсаваным на тэрыторыі цяперашняй Томскай вобласці Расіі. Том адкрываецца ёмістым гістарычным нарысам «Канвеер смерці» пра сутнасць і маштабы рэпрэсіяў. Галоўны змест выдання — пайменны спіс 1 261 асуджанага з невялікімі звесткамі пра месца нараджэння, пражывання, працы і пасады ў момант арышту, а таксама атрыманага прысуду. У трэцім раздзеле «Сведчанні эпохі» прыведзены дакументы, на падставе якіх адбываліся рэпрэсіі на тэрыторыі БССР і Заходняй Сібіры. У чацвёртым раздзеле распавядаецца пра рэабілітацыю бязвінна асуджаных і пакараных смерцю. Ігар Кузняцоў прыводзіць спіс лагераў ГУЛАГу, якія дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Сібіры. Іх было 50.




У серыі «Беларускі індэкс рэпрэсаваных» плануецца выданне тамоў, прысвечаных ураджэнцам Беларусі, што загінулі ў Маскве і Ленінградзе, заходнім беларусам і палякам, рэпрэсаваным на тэрыторыі Беларусі ў 1939-1941 гадах пасля ўз'яднання заходніх беларускіх зямель з БССР, а таксама ахвярам сталінскага тэрору, знішчаным у Мінску ў 1930-1940-я гады. Адным з месцаў масавых расстрэлаў карнікамі НКУС савецкіх грамадзянаў былі ўрочышча Курапаты, лясны масіў парку Чалюскінцаў.

Кніга падрыхтавана да выдання «Архівам найноўшае гісторыі» пры грамадскім аб'яднанні «Дыярыуш» і пры падтрымцы варшаўскага цэнтру *«Karta»*, аддзяленняў расійскага грамадскага аб'яднання «Мемарыял» у Томску і Маскве, а таксама інстытуту «Адкрытае грамадства» (Парыж).

Гэтае даведачнае выданне надрукавана рарытэтным накладам (115 асобнікаў). Набыць яго можна будзе ў мінскай кнігарні «Акадэмкніга».

Прэзентацыя выдання адбудзецца 31 студзеня а 17-й гадзіне ў Літаратурным музеі Янкі Купалы.

**Аддзел інфармацыі**

# Лясніцтва ўспомніла пра Курапаты

Раніцай 25 студзеня прадстаўнікі ляснай гаспадаркі Мінскага раёну запатрабавалі ад удзельнікаў вахты ва ўрочышчы Курапаты згарнуць свой часовы лагер і пакінуць урочышча, бо на тэрыторыі лясніцтва ніякія акцыі не дазволены. Пра гэта паведамляе прэс-служба апазіцыйнай моладзевай арганізацыі Малады Фронт.

Супольная акцыя актывістаў па абароне ўрочышча Курапаты, дзе пахаваны тысячы ахвяр сталінскіх рэпрэсій 1930-х гадоў, ад магчымага разбурэння пры рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтадарогі, працягваецца ўжо 124 дні. За ўвесь час гэта першая спроба ціску на абаронцаў Курапатаў праз лясніцтва. Паводле словаў ляснікоў, яны дзейнічаюць на падставе інфармацыі з Мінскага абласнога УУС аб незаконных высечках, якія нібыта дапускаюць члены лагера.

Відавочна, што ўлада мяняе тактыку ціску на абаронцаў Курапатаў і разлічвае выцесніць іх з урочышча, заяўляюць прадстаўнікі Маладога Фронту.

Маладафронтаўцы лічаць, што пасля аднаўлення пасольствам ЗША мемарыяльнай лавы ў Курапатах, улады зразумелі ўсю небяспеку гэтай бестэрміновай акцыі. Як сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАНу лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец, «Курапаты пачалі ператварацца ў месца народнага паломніцтва, а цяперашнія беларускія ўлады, відавочна, хочуць, каб грамадства забыла і пра гэтае месца, і пра падзеі, што тут адбываліся».

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Незаможны спорт

Спорту з бюджэтным фінансаваннем пашанцавала летась больш, чым якой сацыяльнай сферы ці культуры. Дзяржава выдаткавала на спартоўцаў амаль усё, што абяцала, – 33,3 мільярда рублёў, або 90% ад запланаванага.

Праўда, былі спадзевы, што цягам году ўсё ж пастуляць і закладзеныя ў бюджэце 2,8 мільярда рублёў на будаўніцтва і рэканструкцыю 14 спартовых аб'ектаў. Аднак гэта было выканана толькі на 50,3% . У выніку рэканструкцыю многіх аб'ектаў давялося адкласці на будучыню. Каб неяк зводзіць канцы з канцамі, даводзіцца пашыраць платныя спартовыя паслугі. Мінулым годам іх аб'ём падвысіўся на 5-6%, і калі такія ж вынікі будуць і сёлета, то спорт атрымае 14,5 мільярда зусім не лішніх рублёў.

Гульнёвы бізнес, на які міністэрства спорту мела вялікія спадзевы, летась даходаў так і не прынёс. Усе яны – 4 мільярды рублёў – аселі ў бюджэце краіны, хоць маглі забяспечыць дзесятую частку фінансавання патрэбаў спартовай галіны.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# «Стайкі» пустуюць

Сярэдні ўзровень рэнтабельнасці спартовых прадпрыемстваў летась склаў 23,5%, аднак у загарадных спартовых комплексаў ён значна скараціўся. У «Стайках», напрыклад, рэнтабельнасць за год упала з 7,7% да 1,5%, а «Раўбічы» ўвогуле засталіся ў стратах: –14%.

Спарткомплекс «Стайкі» летась быў «загружаны» толькі напалову. Штогод дзяржава замаўляе пэўную колькасць месцаў для падрыхтоўкі ў ім беларускіх спартоўцаў. Аднак ужо традыцыйным стала тое, што спартоўцы з розных прычынаў «не даязджаюць» да спарткомплексу, і іх месцы пустуюць. Пры гэтым, чакаючы прыезду сваіх, даводзіцца адмаўляць у месцах замежнікам, якія жадаюць патрэніравацца на беларускіх базах. Усё ў спарткомплексе – ад гатэлю да воданапорнай вежы – патрабуе неадкладнага рамонту. Асноўныя камунікацыі там былі ўзведзеныя ў канцы 70-х—пачатку 80-х гадоў, і з тых часоў знасіліся. Аднак грошай, якія выдаткаваны бюджэтам на сёлетнія будаўнічыя работы, хопіць толькі каб разлічыцца па запазычанасці з будаўнікамі за мінулы год.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Амерыканцы не ўцямілі

Наіўны фільм-казка «Марозка» рэжысёра Аляксандра Роу пабачыў свет у СССР у 1964 годзе і дагэтуль цешыцца сімпатыямі нашага юнага гледача. У канцы 90-х яго выпусцілі ў ЗША на відэакасетах. Неспадзявана казка выклікала ў амерыканцаў шквал эмоцый і адразу ўвайшла ў сотню найгоршых фільмаў усіх часоў на самым буйным кінасайце інтэрнэту *www.us.imdb.com*.




З водгукаў веднікаў сайту, якія паглядзелі стужку:

«Самы дзіўны фільм у гісторыі кіно. Магчыма, група расійскіх сцэнарыстаў наелася наркотыкаў...»

«Нейкая прыдуркаватая фантазія/казка пра прыдуркаватага хлопца, які ператварыўся ў мядзведзя; адзінаццацігадовую дзяўчынку, якую той хлопец хоча спакусіць; ідыёцкі дом з нагамі; злую сям'ю русафінаў, доўгабародага выродлівага дзеда, які замарожвае дрэвы і забівае птушак; санкі, падобныя да свінні; грыбападобнага гнома».

«Так, гэты фільм падаецца жахлівым. Але заўважце: у ім прысутнічае нетутэйшы сюррэалізм...»

«Кіслотныя тэлепузікі!»

«Горш за ўсё, што гэты фільм называецца дзіцячым. Гэта шызафрэнічная, жахлівая, псіхапатычная мяшанка. Калі б я паглядзеў гэты фільм у дзяцінстве, я б звар'яцеў».

«Мне было цікава даведацца пра пікантныя падрабязнасці жыцця сялянскай Расіі. Я і не здагадваўся, што перад знаёмствам з патэнцыйным мужам рускія дзяўчаты робяць клоунскі макіяж і надзяваюць карону, як у ядальні *«Burger King»*.

**Р. П.**

# Спадчына ледавіка з мінскай прапіскай

*У нашай краіне няма гор, але мы маглі б стварыць іх, калі б сабралі ўсе нашыя каменьчыкі ды валуны. Ледавік пакінуў багатую спадчыну па ўсёй Беларусі. Хто не бачыў дзе-небудзь у полі, лесе ці рэчцы агромністага валуна? Найбольш такіх – у Мінску, у мікраранёне Уручча.*

Тут раней было балота, а цяпер на плошчы больш за 6 гектараў месціцца Музей валуноў, створаны Інстытутам геалогіі НАН Беларусі. Для вучоных гэты парк камянёў яшчэ і эксперыментальная база – магчымасць вывучаць спадчыну ледавіка.

Моладзевае аб'яднанне «Гісторыка», якое час ад часу ладзіць суботнікі ў Лошыцкім парку, мае намер гэтай вясной заняцца яшчэ і ўпарадкаваннем тэрыторыі музею валуноў. Такім чынам, валанцёраў тут стане больш, і гэтае месца са статусам нацыянальнага помніка культуры стане чысцейшым. Пэт-бутэлькі, патрушчанае шкло, папера, коркі і недарэчныя надпісы на валунах, накшталт «зуброўскіх» ды «Тут быў Вася», – звычайныя сляды прабывання тых, хто прыходзіў сюды не толькі падзівіцца на валуны, але і весела прабавіць час — звычайна пасля святаў. А ў нас жа многія гуляюць, як свінні, пакідаючы па сабе сапраўдныя сметнікі.

Музей гэты адкрытага тыпу, таму стан ягоны наўпрост залежыць ад паводзінаў менчукоў, іх агульнай культуры. Што праўда, на тэрыторыі музея чамусьці не дадумаліся ўсталяваць сметніцы. Відаць, і на ўтрыманне гэтага музею ў прыстойным выглядзе ў дзяржавы няма грошай.

Валуны выкладзеныя такім адмысловым чынам, што нагадваюць мапу Беларусі. Крайнія ланцугі камянёў– гэта межы, якіх дасягнуў ледавік; кустоўе – межы сучаснай дзяржавы; сцежкі – рэкі; тры яліны разам – абласныя цэнтры. Камяні, якім па некалькі соцень тысяч, а то і мільёнаў гадоў, у Музей валуноў збіралі з усіх рэгіёнаў Беларусі. Усяго тут больш за 2 тысячы валуноў. Каменныя экспанаты маюць у дыяметры ад 10 сантыметраў да 5 метраў. Ёсць тут і такія, што ўважаюць за чароўныя. Напрыклад, узятыя з берагоў Свіслачы ў Мінску валуны «Стары» і «Дзед». Пра апошні кажуць, што калі бясплодная жанчына пасядзіць на ім, то зможа потым зацяжарыць і нарадзіць дзіця. Стаяць у валуновым музеі і каменныя крыжы. Адзін з іх знакаміты тым, што быццам каля яго падчас аднаго з вайсковых паходаў Лівонскай вайны пры канцы XVI стагоддзя сілкаваўся Сцяпан Батура.

Геолагі даводзяць, што і камяні патрабуюць догляду. Бо яны ж – таксама прырода.

**Кірэй МАНУЙЛА**



# Калодзежная – не значыць чыстая

*30% прэснай вады ў Беларусі прызнаны не адпаведнымі стандартам праз павышаную канцэнтрацыю ў ёй жалеза. 3% вады прызнаны нестандартнымі па сваім мікрабіялагічным складзе.*

Але гэта не істотна, бо, нават паводле нормаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, дапушчальна мець да 5% такой нестандартнай вады.

Са словаў загадчыка аддзелу камунальнай гігіены Рэспубліканскага цэнтру гігіены і эпідэміялогіі Сямёна Позіна, вада ўтрымлівае каля 1,5 тысячы хімічных рэчываў, якія могуць уздзейнічаць на здароўе чалавека. Напрыклад, недахоп у вадзе селену можа спрычыніцца да развіцця анкалагічных захворванняў і паражэння ўнутраных органаў, а адсутнасць жалеза – да анеміі. Аднак беларусам, мяркуючы па ўсім, анемія не пагражае, бо жалеза ў нашай вадзе аж занадта.

На выгляд — гэта звычайная ржавая вада. У ёй не памыешся, на ёй не згатуеш ежы, яе нельга піць. Вада, дзе канцэнтрацыя жалеза дасягае 10 мг на літр, можа выклікаць моцную алергію. Аднак, як супакоіў Сямён Пузін, звычайна ў нас канцэнтрацыя вагаецца ад 0,3 да 2 мг на літр.

У асноўным ад гэтага пакутуюць воды з падземных крыніцаў. Завышаную канцэнтрацыю жалеза зафіксавалі на 70% свідравінаў. Для ачысткі такой вады патрэбныя адмысловыя станцыі абезжалезення, аднак на абсалютнай большасці водазабораў іх няма. Ды нават калі такія станцыі ёсць, то стан іх кепскі. Вырашэнне гэтай праблемы было закладзена ў «Рэспубліканскую праграму паляпшэння якасці пітной вады», разлічаную на 1998-2000 гады. Аднак дзеянне праграмы ўжо даўно скончылася, а станцыяў абезжалезення так і не пабудавалі, дый усе закладзеныя ў яе мерапрыемствы выкананыя толькі на 50%.

Большасць насельніцтва краіны спажывае ваду з падземных крыніцаў. Ачышчанай рачной вадою карыстаюцца толькі частка гарадзенцаў, гамяльчанаў, мінчукоў і ўсе палачане. Полацку, паводле словаў Сямёна Пузіна, увогуле з вадой не пашанцавала: тут самая «агрэсіўная» падземная вада, бо яна ўтрымлівае вялікую колькасць мікраэлементаў, якія з цяжкасцю перапрацоўваюцца.

Мінску ў дзень трэба 600 тысяч кубічных метраў прэснай вады, з якой толькі 2% ідзе на піцце, а астатняе – на патрэбы гаспадаркі і побыту. У Фрунзенскі, Цэнтральны, Кастрычніцкі і Маскоўскі раёны сталіцы вада пераважна трапляе з адкрытых крыніцаў. Яны хутчэй забруджваюцца, таму без ачышчальных збудаванняў тут не абысціся. А вось у некаторых месцах падземная вада бывае настолькі чыстай, што яе можна ўвогуле не ачышчаць. На думку загадчыка аддзелу камунальнай гігіены Рэспубліканскага цэнтру гігіены і эпідэміялогіі, Мінск мог бы і цалкам перайсці на спажыванне падземнай вады, аднак гэта патрабуе вялікіх выдаткаў. Дзяржаве рачная вада абыходзіцца ў 2 разы танней, чым падземная.

Ад абавязковага хлаunion хларавання вады пакуль ніхто адмаўляцца не збіраецца. Гэта самы стары і самы надзейны спосаб абеззаражвання пітной вады, якім пачалі карыстацца яшчэ ў XIX стагоддзі. Сёння бактэрыі і вірусы ў вадзе ўжо можна забіваць ультрафіялетавым выпраменьваннем, азанаваннем і праз ультрагукавую апрацоўку. З 1978 году азанаванне часткова ўжываецца і ў нас, яго спалучаюць з хлараваннем.

Аднак усе гэтыя навамодныя спосабы не разлічаныя на нашыя трубы. 60% з іх ужо даўно адпрацавалі сваё, а тэмпы іх абнаўлення замарудзіліся. Між тым да 70% мікрабіялагічнага забруджвання вада атрымлівае якраз у трубах па дарозе да спажыўца. З часам яны губляюць сваю герметычнасць, і тады ў ваду можа трапіць што заўгодна. Добра яшчэ, што па нормах трубы заўсёды пракладаюцца як мага далей ад сметнікаў, ад месцаў выкіду сцёкавых водаў – у так званай санітарнай зоне.

У адрозненне ад хлоркі, новыя метады абеззаражвання не могуць зберагчы ваду ад бактэрыяў у трубах. Таму нам ад хларавання нікуды не дзецца. А каб пазбавіцца паху хлоркі, трэба даць такой вадзе адстаяцца. Можна карыстацца і хатнімі фільтрамі для ачысткі вады. На думку Сямёна Позіна, «гэта сапраўды адзін з метадаў ачысткі вады, але не панацэя».

Што да калодзежнай вады, то санітарныя праверкі па ўсёй краіне абвяргаюць устойлівае меркаванне, што яна заўсёды лепшая за водаправодную. У 55% сельскага насельніцтва вада ў калодзежах кепскай якасці: хоць ад яе і не пахне хлоркай, затое перавышаны нормы мікрабіялагічнага забруджвання. З меркаванняў зручнасці гаспадары часта капаюць іх каля туалетаў ці сметнікаў ды неглыбока – на 3-4 метры. Такія калодзежы запаўняюцца вадой з верхніх падземных ваданосных гарызонтаў, а ў іх звычайна трапляе бруд з палёў і нават з тых жа туалетаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 28 студзеня – 3 лютага

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Публіка і сябры чакаюць вашага з'яўлення, актыўнага ўдзелу ў арганізацыі новага і арыгінальнага руху, клубу па інтарэсах. Магчыма, некаму прыйдзецца выправіцца ў камандзіроўку і трохі там затрымацца, заняцца афармленнем папераў, але справа таго вартая. У пятніцу і суботу прагназуецца спонсарская падтрымка, выгада і прыліў сілаў ад стасункаў з сябрамі.



**ЦЯЛЕЦ.** У самым блізкім атачэнні хтосьці «капае пад вас» у самым пачатку тыдня. Афармленне справаў, звязаных з грашыма ці фінансаваннем, адкладаецца на пару тыдняў, але вы можаце заручыцца неафіцыйнай падтрымкай. У пятніцу і суботу ёсць шанец адсудзіць ці атрымаць у спадчыну частку маёмасці, дабіцца самастойнасці ў вырашэнні прафесійных пытанняў.



**БЛІЗНЯТЫ.** У самым пачатку тыдня не рэкамендуецца закранаць фінансавых пытанняў. Світа робіць з вас караля. Яна складаецца з тых, хто вам спачувае, і тых, хто прыязна да вас ставіцца. Верагодны ўдзел у прыстойнай навуковай, экскурсійнай праграме, прыём дэлегацыі здалёк, паспяховае і нечаканае падпісанне дакументаў, якія пашыраць вашыя паўнамоцтвы ці магчымасці.



**РАК.** У самым пачатку тыдня вы нястомны працаўнік, магчыма – пад ціскам начальства. Не выключана, што давядзецца выпраўляць памылкі або рыхтаваць нейкі дакумент. Ёсць сэнс скарыстацца з паслугаў адваката, які падкажа добры і зручны варыянт абароны. Самапачуванне палепшыцца, у пятніцу і суботу някепска зладзіць сабе свята здароўя.



**ЛЕЎ.** Непажадана сустракаць пачатак тыдня ў далёкай дарозе, бо ахоўнікі правапарадку будуць не вельмі зычлівымі ў адносінах да вас. Нехта здольны істотна прасунуць задуманую справу, разлічаную на месяц. Вы шмат і свабодна бываеце ў грамадзе, трапляеце ў вальнадумнае асяроддзе, атрымліваеце прызнанне. Халасцякі нечакана гатовыя ўступіць у свабодны саюз па жаданні сэрца.



**ПАННА.** У вас чамусьці з'яўляецца неабходнасць заняцца прафесіяй ці справай, якую трэба хаваць або якая звязаная з закрытымі фактамі. Аднак гэта перспектыўна і зможа замацаваць ці нават узняць вас на кар'ернай лесвіцы. Вы можаце выявіць найлепшыя байцоўскія і камерцыйныя якасці, аналітычныя прыродныя дадзеныя. Бліжэй да выходных – у доме пераўвасабленне. Займіцеся інтэр'ерам.



**ШАЛІ.** У першыя два дні тыдня ўсе вас ганяць. Аднак потым могуць з'явіцца пэўныя прапановы па працы, звязаныя з яркай публічнай дзейнасцю, творчай рэалізацыяй. У адносінах з дзецьмі чакаюцца добрыя перамены, асабліва калі яны знаходзяцца далёка ад дому або думаюць пра далёкія перспектывы. Не выключаюцца прыемныя вясельныя клопаты, каштоўныя набыткі бліжэй да выходных.



**СКАРПІЁН.** Вы геніяльна здольны вырашыць самыя надзённыя задачы выжывання, бяспекі і пабытовыя праблемы. Некага схільны ацэньваць як героя і нават прастымуляваць матэрыяльна. Трэба будзе цягам пары тыдняў выказваць увагу родным і блізкім, займацца кватэрай, натарыяльным афармленнем дакументаў. Каханне звычнае, і бліжэй да выходных будзе гатоўнасць гэта ацаніць.



**СТРАЛЕЦ.** У самым пачатку тыдня занадта актыўны «творца», можна сказаць, запешчанае дзіця, можа падштурхнуць вас да канфлікту. Аднак публічная падтрымка, пачатак грамадскага працэсу шмат у чым выратуе сітуацыю. Самая пара выставіць на суд публікі ўласны твор. Калі будзеце паводзіць сябе ў каханні як захопнік, то шмат чаго дасягнеце, бо ад вас чакаюць якраз такіх паводзінаў.



**КАЗЯРОГ.** Выплата фінансавых сродкаў, вяртанне доўгу чакаецца на працягу наступных двух тыдняў, не болей. Не выключана з'яўленне крыніцы прыбыткаў, магчыма, здалёк. Акрэсліваюцца нейкія планы адносна ўласнай кватэры. У цэлым – фундамент умацоўваецца. У каханні вы недаверлівы ці ведзяце патаемнае жыццё, насычанае бліжэй да выходных прыемнымі сюрпрызамі і ўражаннямі.



**ВАДАЛІЎ.** Вы актыўна ўцягваеце ў свае творчыя, магчыма, пісьменніцкія справы самых блізкіх сваякоў, суседзяў, знаёмых, каб атрымаць прызнанне, выгаду, заваяваць каханне. Задзейнічайце свае сувязі. Вы таленавіты гулец, асабліва калі размова ідзе пра спартовы азарт ці акцыі. Бліжэй да выходных чакаюцца шматлікія ўражанні і ўдача.



**РЫБЫ.** Адбываецца актыўнае ўзнаўленне жыццёвых сілаў. Вы рашаецеся на аперацыю ці на задуманае, амаль схаванае ад староннніх вачэй, прадпрыемства. Нейкі калектыўны адыход ад свету – магчыма, падарожжа з сябрамі – прынясе максімальнае задавальненне жыццём. Бліжэй да выходных вы пачынаеце ўхваляць патаемныя сустрэчы, мілыя вечары з прыцягальным спадарожнікам.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1114 Нумар падпісаны ў друк 27/01/2002 (15:00) Наклад – 8.150

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014